# ГОЛАС ЦАРКВЫ

**РЭЛІГІЙНА-ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС ПРАВАСЛАЎНЫХ БЕЛАРУСАЎ**

**Выдае Епархіяльная Управа Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Нью-Ёрку. Рэдагуе Калегія. Адрыс Рэдакцыі: "The Voice of the Church", 401 Atlantic Av., Brooklyn, N. Y., 11217**

**№ 34 СЬНЕЖАНЬ — DECEMBER ГОД. 17**

БОЖАЙ МІЛАСЪЦЮ
СЬВЯЧЭННЫ САБОР ЕПІСКАПАЎ
БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ

*Да ўсечаснога Духавенства, Прападобнага Манаства*
*і ўсіх Багалюбных вернікаў на чужыне й на Бацькаўшчыне.*

## АРХІПАСТЫРСКАЕ ПАСЛАНЬНЕ

*„Ноч мінула, а дзень наблізіўся: дык*
*адкінем дзеяньні цемры, і зброяй*
*Сьвятла ахінёмся (Да Рым. 13, 12)*

**ЛЮБЫЯ НАШЫЯ ДЗЕЦІ ДУХОЎНЫЯ!**

Вітаем Вас з нявымоўным дарам Боскім — дарам любові й міласэрдзя да нас людзей. Збавіцель нарадзіўся на зямлі. І ангел абвесьціў праз пастушкоў: „Вось абвяшчаю вам вялікую радасьць, якая будзе ўсім людзям: бо нарадзіўся вам сяньня ў месьце Давыдавым Збавіцель — Хрыстос Госпад". (Лк. 2, 10-11).

Гэта была запраўды вялікая радасьць, ня толькі для Прачыстае Дзевы Марыі й Праведнага Язэпа і для пастушкоў, якія першымі прынялі гэтую вестку, для мудрацоў, якія, праводжаныя дзіўнаю Зоркаю Народжанага, прышлі да Ерусаліму з Усходу, але радасьць для ўсяго людзтва. З Ясьляў зазьзяла Сонца Праўды, пра якое апавядаў старазапаветны прарок Ісайя, кажучы: „Людзі, што бытуюць у цемры, пабачаць Сьвятло Вялікае (Іс. 9, 2). І прароцтва зьдзейсьнілася. Людзей, што бытавалі ў духовай цемры, абцяжаных грахамі, прыгнобленых і паняволеных, прасьвятліла Сьвятло Хрыстовае, Сьвятло Любові, Дабра й Праўды. Сэрцы ўсіх прыгнечаных, зьняволеных напоўніліся надзеяй, і для іх блiснулі праменьні прышлага Валадарства Божага. Стаўся пачатак перамогі дабра над злом, адрадзілася надзея на сьветлую будучыню, узмоцнілася вера й любоў.

Бог зыйшоў на зямлю і сілаю Духа Сьвятога прыняў цела ад Дзевы Марыі, каб усталіць лучнасьць з чалавекам. Госпад наш Ісус Хрыстос прайшоў поўны зямны шлях чалавека, і прыняў найцяжэйшую пакуту — сьмерць праз укрыжаваньне — дзеля адкупленьня роду чалавечага. У Сьвятой Тайне злучэньня Бога й Чалавека ніякія людзкія слабасьці, а тымбольш наш грэх, ня былі злучаныя з Богам. Але Бог так палюбіў людзей Сваіх, Сваё Тварэньне, што паслаў Свайго Адзінароднага Сына дзеля нашага збаўленьня. „Бо Сын Чалавечы не дзеля таго прыйшоў, каб Яму служылі, але служыць і аддаць жыцьцё Сваё для адкупленьня многіх (Мц. 20, 28).

Перад Сваім укрыжаваньнем Хрыстос Госпад сказаў вучням сваім: „Запавет новы даю Вам; любеце адзін аднаго; як Я палюбіў вас, так і вы любеце адзін аднаго; па гэтым пазнаюць усе, што вы вучны Мае, калі будзеце мець любоў між сабою" (Ін. 13, 34-35). Любоў — гэта нашае нябеснае сьвятло, нашае дабро, радасьць і шчасьце. Любоў — гэта Боскі агонь у сэрцах нашых. Таму Сьв. Апостал Павал кажа: „Цяпер трываюць гэтыя тры: Вера, Надзея й Любоў, але большая зь іх — Любоў" (І Кар. 13, 13).

Сьвяты Дзень Хрыстовага Нараджэньня штогоду прыпамінае нам гэты Сьвяты Запавет і штогоду адраджаецца ён у сэрцах вучняў-вернікаў Хрыстовых. Няхай-жа й нашае жыцьцё ўладжваецца згодна з гэтым найвялікшым Запаветам. З прыкладу Госпада нашага Нованароджанага Ісуса Хрыста будзем паважаць адзін аднаго й з любоўю вітацца з братамі й сёстрамі: Хрыстос Раджаецца! — Яго Слаўце. Слаўце Нованароджанага Ісуса Хрыста, любеце братоў і сёстраў сваіх, любеце Народ свой Беларускі, любеце сваю Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву, бо Яна Маці нашая, Яна вучыць нас, сваіх вернікаў, цьвёрда трымацца нашай Веры Праваслаўнай. Хай любоў аграваe сэрцы Вашыя, падніме Вас да нябёсаў, робіць Вас падобнымі ангелам і дае Вам мудрасьць да пазнаньня Праўды й сілу для асягненьня Яе.

У гэтай Веры, Надзеі й Любові да Нованароджанага Ісуса Хрыста, Госпада й Спаса нашага, вітаем Вас дастойныя Айцы, Любыя Браты й Сёстры нашыя, з вялікім і радасным Сьвятам Нараджэньня Хрыстовага й пасылаем усім Вам і ўсяму нашаму Беларускаму Народу нашае Архіпастырскае словасьвячаньне.

Ласка Збавіцеля нашага Госпада Ісуса Хрыста, і любоў Прадвечнага Бога Айца, і дар Жыцьцятворчага Духа Сьвятога няхай будзе з усімі Вамі. Амін.

Дадзена Лета Божага 1971 — ✠ **Пакорны Архіепіскап АНДРЭЙ**
Амэрыка — Канада — ✠ **Пакорны Епіскап МІКАЛАЙ**



# ПЕРШАЕРАРХ БЕЛАРУСКАЕ АЎТАКЕФАЛЬНАЕ ПРАВАСЛАЎНАЕ ЦАРКВЫ ВЫСОКАПРААСЬВЯЧЭНЬНЕЙШЫ АРХІЕПІСКАП СЯРГЕЙ — УПАКОІЎСЯ



У сыботу 2-га кастрычніка 1971 году неспадзявана адыйшоў на вечны супачын сьв. пам. Архіепіскап Сяргей — Першаерарх Сьв. БАПЦарквы.

З адыходам у вечнасьць Высокапраасьвячэньнейшага Архіепіскапа Сяргея БАПЦарква страціла аднаго з тых найбольшых сярод нас, пра якіх Госпад у прыпавесьці аб талянтах гаварыў, як пра слугаў добрых і верных. Дадзены яму талянт ад Госпада не закапаў у зямлю, але памножыў і прынёс свайму Тварцу з прыбыткам.

Аднаўляючы Йерархію БАПЦарквы Ён прынёс найвялікшы плён для Яе, бо перасказаў Апостальскае Пераемства для новых Архіпастыраў і пастыраў БАПЦарквы.

Нарадзіўся Высокапраасьвячэньнейшы Архіепіскап Сяргей (Рыгор Охотэнко) 12/25 сакавіка 1890 году ў сяле Малыя Гарошкі, Жытомірскага павету ад бацькоў Пракопа і Феадосі. Юнаком пайшоў у манастыр у Жытоміры. У манастыры, дзе стала пражываў ад 1911 да 1921 году, атрымаў духоўную асьвету. 28-га чырвеня 1919 г. прыняў пастрыжэньне ў манахі ад Архіепіскапа Ляонція у Богаяўленскім манастыры ў Жытоміры.

У 1925 годзе прыняў рукапалажэньне ў йераманахі ад Архіепіскапа Васіля Багдашэвіча ў Кіеве. У 1932 годзе ўзьведзены ў сан Архімандрыта. Душпастырскія абавязкі выконваў у парафіях: Коростэнь, Народзічы, Емільчыцы Кулешы. Душпастырам працаваць доўга ня прышлося, бо ў 1937 годзе быў арыштаваны саветамі й высланы на цяжкую працу — рыбны промысел у Бярдзянску. Вызваліўшыся ў часе другое сусьветнае вайны з прымусовае працы, быў назначаны Настаяцелем Сабору ў Мелітопалі.

Першага жнівеня 1943 году хіратанізаваны ў Епіскапы. Хіратонію зьдзейснілі: Архіепіскап Міхаіл (Хорошы), Архіепіскап Генадзі (Шыпрыкевіч), і Епіскап Уладзімір (Малец). Хіратонія адбылася ў грэцкім Катэдральным Саборы ў Кіраваградзе. Кананічнасьць хіратоніі прызнаў Архіепіскап Варшаўскі й Мітрапаліт Сьв. Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы ў Генэрал-Губэрнатарстве Дыянізі, які дня 10-га травеня 1943 году выдаў Епіскапу Сяргею пасьвятку наступнага зьместу: „Гэтым сьцьвярджаю, што Сергій, Епіскап Мелітопальскі — з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы — атрымаў кананічную хіратонію першага жнівеня 1943 году ў месьце Елізаветградзе (Кіравагорадзе) і, прабываючы са мною ды Сьвяцейшымі Патрыярхамі Праваслаўнымі ў кананічным яднаньні, належыць да Епіскапаў Сьв. Усяленскае Праваслаўнае Царквы. Круглая пячаць. Подпіс

— Дыянізі, Мітрапаліт Варшаўскі —

У выніку ваенных падзеяў Уладыка Сяргей, разам з іншымі Украінскімі Епіскапамі, змушаны быў эміграваць у Нямеччыну. У міжчасе пераход Епіскапаў БАПЦарквы, на чале з Мітрапалітам Панцелейманам да Расейскае Зарубежнае Царквы, асірацiў беларускіх праваслаўных вернікаў. Гэта змусіла некаторых беларускіх сьвятароў і прадстаўнікоў беларускага грамадзтва зьвярнуцца да Епіскапату УАПЦарквы, просячы помачы ў цяжкой сытуацыі. Сабор УАПЦарквы на сваёй 6-тай сэсіі, дня 4-га лютага 1949 году, просьбу Беларусаў залагодзіў пазытыўна й адпусьціў Епіскапа Сяргея для узначаленьня новай Йерархіі Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.



19-га сьнежня 1949 году на дапамогу Епіскапу Сяргею быў хіратанізаваны ў Епіскапы сьв. памяці архімандрыт Васіль. Такім парадкам быў створаны Сьвячэнны Сабор Епіскапаў Сьв. БАПЦарквы, які заапекаваўся беларускімі вернікамі, якія апынуліся на выгнаньні; і з таго часу аднаўленьне БАПЦарквы сталася дакананым фактам.

Епіскапу Сяргею быў прысвоены тытул Архіепіскапа, як Галаве БАПЦарквы, і Ён пераехаў у Аўстралію, каб апекавацца там беларускімі вернікамі (ў Аўстраліі й Новазэляндыі), а Епіскап Васіль, як сакратар Сьв. Сабору Епіскапаў, быў назначаны адміністратарам на ЗША, Канаду й Эўропу. У Аўстраліі сьв. памяці Высокапраасьвячэнны Архіепіскап Сяргей, з дапамогаю шчырых Беларусаў, зрабіў шмат карыснага ня толькі ў галіне рэлігійнай, але й грамадзкай.

Раніцаю 2-га кастрычніка перастала біцца сэрца няўтомнага рэлігійнага дзеяча й добрага прапаведніка Хрыстовае навукі.

Паховіны адбыліся 13-га кастрычніка ў горадзе Адэляйдзе. У часе заўпакойнае Літургіі й адпяваньня ў Грэцкім Саборы Архістратыга Міхаіла бралі чынны ўдзел: ад БАПЦарквы — Праасьвячэнны Епіскап Мікалай, Пратаерэй а. Аляксандар, Мітрафорны Прат. а. Міхаіл, які з прычыны недамаганьня ня мог служыць, але прысутнічаў; ад Грэцкае царквы — Уладыкі: Архіепіскап Сьпірыдон, Епіскап Хрызастомас, духаўнікі: а. Сьпірыдон, а. Афанасі, а. Ян, а. Мікалай; ад УАПЦарквы — Пратаерэй Нікадым з дыяканам; ад Сэрбскае — а. Дабралюб.

Згодна з жаданьнем самога пакойнага Арх. Сяргея, чын паховінаў дакананы паводля старога Візантыйскага абраду, які раней прыслугоўваў толькі каралём, Патрыярхам і Першаерархам — у сядзячай позе. Пасьля адпяваньня цела ў дамавіне было абнесена духавенствам навакол Сабору, а потым узялі вернікі й нясьлі аж да месца паховінаў. Дзясяткі прыслужнікаў у сьціхарыках з сьвечкамі й рыпідамі ў руках, жанчыны з іконамі, мужчыны з харугвамі й духавенства з крыжамі, ішлі перад труною, а вялікая чарада народу за труною праводзілі дастойнага й заслужанага Уладыку на вечнае упакаеньне.

Гэткую вялікую пашану аддало беларускае й грэцкае духа-

венства й вернікі сьв. пам. дастойнаму Архіепіскапу Сяргею за ягоную духовую апеку над вернікамі ў Аўстраліі. Пахаваны на грэцкім магільніку ў Адэляйдзе.

Сьмерць сьв. пам. Архіепіскапа Сяргея — вялікая страта для БАПЦарквы. Ягоная глыбокая рэлігійнасьць, добрая веда царкоўных уставаў і абрадаў, нязменнасьць у выкананьні трэбаў, абарона праваслаўнае веры, цьвёрдасьць і шляхотнасьць характару вызначалі Ягонае дастаенства быць кіраўніком Царквы. Як Архіепіскап, Ён ня шукаў для сябе славы ці гонару, але верна служыў БАПЦаркве, дбаючы пра павялічэньне ліку Яе сьвятарства, каб Яна ня страціла свайго апостальскага пераемства, каб была вечнаю.

Сьв. пам. Высокапраасьвячэнны Архіепіскап Сяргей быў вялікім праваднікам нашага царкоўнага жыцьця. Ён належаў да тае катэгорыі духавенства, якое самастойна творыць, і праводзіць свае ідэі ў жыцьцё, кіруючыся Воляю Божаю і гістарычным прызначэньнем таго народу да якога Ён прышоў служыць і тварыць. Ён быў ня толькі Пастырам, але й духовым правадыром. Страта ягоная будзе адчувацца доўга й моцна.

Уладыка Сяргей адыходзіць у гісторыю нашае Царквы, як духовы змагар за духовую волю Беларускага Народу.

Няхай Госпад упакоіць душу Ягоную, дзе ўсе Праведнікі супачываюць. А зямля Аўстралійская, дзе суджана было Ўладыку супачыць, няхай будзе Яму лёгкай.

Вечны супакой Табе, Вялікі Адраджэнец і Незабыўны Добры Пастыр!

## АБ ЗАСНАВАНЬНІ НЕЗАЛЕЖНАЙ ЛІТОЎСКАЙ МІТРАПОЛІІ У НАВАГРАДКУ

Шлях нашае Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы мае два аспекты: з аднаго боку — шлях надзвычайна творчы, слаўны, цудоўны й карысны для нашага Беларускага Народу, а з другога — поўны балючых ахвяраў, зьліты крывёю Яе мучанікаў ды пакрыты ахвярамі пакутаў Яе вернікаў.

Першы шлях выйходзіць з красы душы Беларускага Народу й сілы ягонага духу, аб чым гавораць слаўныя імёны ў нашай царкоўнай гісторыі. На гэтым шляху й адбылося прызнаньне Ўсяленскімі Патрыярхамі нашае Сьвятое Царквы начале зь Яе Мітрапалітамі.

За прыкладам старадаўных хрысьціянскіх катакомбаў наша Сьв. Царква мае й другі шлях, шлях поўны пакутаў, ахвяраў — мучанікаў, як Мітрапаліт Макар (галаву якому адсеклі татары), Віленскія мучанікі Антон, Іван, Еўстаф, Архіепіскап Магілеўскі Варлаам, Мітрапаліт Мелхісэдэк, тры ягоныя Епіскапы, сотні Йерархаў і бязьлікія тысячы ці навет мільёны вернікаў. У свой час дзьмуў на Яе люты сівер як з усходу так і з захаду; грубаю сілаю ломячы каноны й царкоўныя правілы, панявоЛіў Яе, закаваў у ланцугі, загнаў у падзямельле.



Аднак караня асновы Яе зьнішчыць не магла ніякая бязбожная навала. Асноваю гэтаю быў сам наш Народ. У глыбінях душы Ягонай жыло сьвятло, краса й веліч нашае Беларускае Сьвятое Царквы. Таму наш народ заўсёды жадаў і заўсёды актыўна імкнуўся ўсёю сілаю душы свае да аднаўленьня гэтага Сьвятла, і пры кажнай нагодзе стараўся ажыцьцявіць гэтае сваё сьвятое імкненьне: аднавіць нашую слаўную Сьвятую Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву.

Адзначаючы сёньня слаўныя 680-ыя ўгодкі заснаваньня Літоўскае (Беларускае) Праваслаўнае Мітраполіі ў Наваградку, зусім на месцы будзе зазначыць, што Наваградзкая Мітраполія была нібы прадаўжэньнем традыцыяў нашай незалежнай Епіскопіі ў Полацку, якая на досьвітках свае гісторыі кіравалася самастойна й рывалізавала з Ноўгарадам і Псковам.

Паводля летапісных запісаў першая Епіскопія ў Полацку была заснавана ў 992 годзе. У 1007 годзе ў Полацку ўжо была пабудавана каменная Царква Прасьвятой Багародзіцы. Звычайна ў тыя часы (першая палова XI стагодзьдзя) Багародзічныя Цэрквы былі катэдрамі Епіскапаў, як у Кіеве, Смаленску, Ноўгарадзе; так сталася і ў нашым Полацку. У тым часе да Полацкае Епіскопіі належалі Епархіі: Менская, Віцебская, Мсьціслаўская й Магілеўская; пазьней былі далучаны й праваслаўныя, што жылі ў Рызе.

Ведамыя імёны Епіскапаў: Міна, яго наступнікі, — Дзяніс, Ільля, Сымон ды іншыя.

У тым-жа самым стагодзьдзі паўстала Епіскопія ў Тураве, пра якую ў летапісах запісана: „Трэйцяе багамольле паўстала ў Тураве ў 1005-м годзе". Да яе належалі: Пінск, Наваградак, Горадзен, Берасьце, Ваўкавыск, Зьдзітаў, Дубовіца, Высочка, Слуцак, Копысь, Ляхаў, Гарадок, Сьмяяны. Тут пастаўлены быў на Епіскапа Фама.

У 1137 годзе была адчынена Епіскопія Смаленская. Да ведамых там Епіскапаў належалі: Сымон, Аўраам, Яфрэм.

Пры князю Ізяславу Мсьціславічу, наступніку Ігара, запачаткавана была незалежная царкоўная палітыка, і ў 1147 годзе быў скліканы Сабор Епіскапаў, на якім, супраць грэцкай царкоўнай забароны, быў выбраны на незалежнага Мітрапаліта Клім Смаляціч. У выбары прымалі ўдзел Епіскапы: Тураўскі, Смаленскі, Полацкі, Ноўгарадзкі й Раслаўскі. Смаленскі Епіскап у гэтым часе выйходзіць на першае месца і ў пэўнай меры часова пераймае кантролю над Кіевам, Полацкам і Туравам.

У наступным — 13-ым — стагодзьдзі пачынае выйходзіць на шырэйшую арэну нашае Вялікае Княства Літоўскае, якое было асабліва зацікаўлена Полаччынай ды кантроляй над Ноўгарадам і Псковам. Выхад Літоўскага Княства на палітычную арэну зьмяняе агульны ўклад царкоўных справаў.

Тагачасныя Вялікія князі Літоўскага Княства заўсёды імкнуліся стварыць у межах свайго Гаспадарства самастойную Праваслаўную Мітраполію. Высока ставячы значэньне незалежнае Праваслаўнае Царквы ў жыцьці Гаспадарства й ролю Мітрапаліта й Мітрапалічае Катэдры, як аб'яднаўчага асяродка нацянальна-царкоўнага жыцьця, Вялікія князі прыкладалі ўсіх стараньняў да рэалізацыі гэтае ідэі, важна гэта было й з пагляду палітычнага. Імкненьне да канчатковага ўнезалежненьня царкоўнага было запачаткавана ўжо за часаў панаваньня князя Віценя.

Захады Вялікіх Князёў Літоўскіх пастрыялі таму, каб Канстантыно-

пальскі Патрыярх і Візантыйскі імпэратар зьвярнулі больш увагі на праваслаўных у межах Вялікага Княства Літоўскага ды прысьпешылі арганізацыю Мітраполіі. Таму стараньні Віценя аб незалежнай Мітраполіі былі прыхільна прынятыя Візантыйскім Імпэратарам Андронікам II, і ў 1291 годзе Літоўская Мітраполія была абвешчаная.

Аб гэтым сьветчаць дакумэнтальныя дадзеныя — запісы ў Каталёгу ўсіх цэркваў, падпарадкаваных у тым часе Канстантынопальскаму Прастолу. Каталёг гэны быў створаны за часаў Імпэратара Андроніка Старэйшага Палеалёга (1282-1320 г.г.), у якім і зазначана што ў тым часе была выдзелена асобная Літоўская Мітраполія пры Імпэратары Андроніку й Патрыярху Глікысу.

Захаваліся гэтаксама гістарычныя запісы ў патрыяршых актах аб тым, што ў 1329-ым годзе на Сынодзе ў Канстантынопалі браў чынны ўдзел Літоўскі Мітрапаліт Феафіл; гэтым пацьвярджаецца, што першым мітрапалітам у Наваградку быў Феафіл, прыняўшы пасьвячаньне ад грэцкага Патрыярха; паходзіў ён з грэцкага духавенства. Аб ягоным жыцьці й дзейнасьці гістарычных вестак захавалася мала.

Памёр Феафіл, дапушчальна, у 1329 або ў 1330 годзе. Ведама, што Феогност, Мітрапаліт Маскоўскі й Кіеўскі езьдзіў на Валынь, каб забраць маемасьць па Феафілу. Сын Вялікага Князя Гедыміна Любарт Дымітра, які княжыў у Луцку, быў самавольна заўладаўшы маемасьцю Феафіла, якая належала царкве. І гэты гістарычны факт пацьвярджае, што Мітрапаліт Феафіл быў Мітрапалітам Наваградзкім, а сядзібаю мітраполіі быў Наваградак, і Мітраполія ахплівала вялікія, бліжэй няведамыя граніцы. (Гэтцэр і Фіялэк, бал.: 216, 513-514).

Расейскі гісторык Галубінскі (том II, б. 125-126 — История Русской Церкви) піша, што нібы Мітраполія Наваградзкая ўваходзіла ў склад Мітраполіі Галіцкай, якая была ўтворана прыблізна ў тым самым часе, але гэта не адказвае запраўднасьці, бо згодна Патрыяршых актаў (том I, балонкі 350, 430) Вялікі Князь Гедымін, ведаючы, што Мітрапаліт Маскоўска-Кіеўскі Феагност робіць захады з багатымі падарункамі для Патрыярха, каб Патрыярх зачыніў Наваградзкую Мітраполію, вырашыў аб'яднаць Галіцкую Мітраполію з Наваградзкай, матывуючы тым, што Епархіі Галіцкай Мітраполіі — Тураўская, Луцкая і Уладзімірская — знайходзіліся ў Літоўскім Гаспадарстве ад 1320 году. І Галіцкая Мітраполія была далучана да Наваградзкай.

Неабгрунтаваныя й прыпушчэньні прафэсара Карташэва, які піша, што Наваградзкая Мітраполія, зацьверджаная ў часе Імпэратара Андроніка Старэйшага, потым зьліквідавалася, часткова дзеля таго, што ў Літве мала хрысьціянаў (Карташев, том I, бал. 314). Гэтыя прыпушчэньні напэўна адносіліся толькі да Жамойцаў, якія ня былі хрысьціянамі ў той час і зусім не належалі да Літвы. Такія прыпушчэньні праф. Карташэў выказвае таму, што пасьля сьмерці Мітрапаліта Феафіла Канстантынопальскі Патрыярх стрымаўся з вызначэньнем новага Мітрапаліта для Літоўскага Гаспадарства, але справа выкляравалася пасьля сьмерці Мітрапаліта Феагноста ў 1353 годзе. Тады на стараньні Вялікага Князя Літоўскага Альгерда, Патрыярх вызначыў і высьвяціў новага Мітрапаліта Літоўскага — Рамана — і нашая Мітраполія йзноў стала дзейнай.

Ведамыя імёны Мітрапалітаў: Раман, Кіпрыян, Балгарын, Грыгоры Цамбляк, Гарасім Смаленскі, Макары, Солтан ды рад іншых.

У выснаве толькі хочацца сказаць, што як чужыя гісторыкі ні сталіся зацьміць вялікі акт стварэньня Літоўскай Мітраполіі, але яна абвешчана была, і была дзейная доўгі час. Ня была яна фактычна, праўным парадкам, зьліквідаваная. А толькі пазьнейшыя няспрыяльныя палітычныя абставіны ў Вялікім Княстве Літоўскім былі перашкодаю да ўзмацненьня нашае Сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Далучэньне-ж беларускіх тэрыторыяў да Маскоўшчыны фармальна перапыніла Яе існаваньне. Але Яна жыве.

З дакладу Архіепіскапа Андрэя
ў Брукліне, 24. 10. 71.



# АРХІЕПІСКАП АНДРЭЙ НА АРХІПАСТЫРСКАЙ ВІЗЫТАЦЫІ У АНГЕЛЬШЧЫНЕ

## РУКАПАЛАЖЭНЬНЕ НОВАГА СЬВЯТАРА

Галоўнаю мэтаю выезду Уладыкі Андрэя ў Англію было перадусім рукапалажэньне ў сан йерэя брата Яна Пякарскага.

Падарожжа да Англіі, пры сучаснай паветранай камунікацыі, з Нью Ёрку да Лёндану трывае звычайна ад 6-ці да 7-мі гадзінаў. І 28-га жніўня, у дзень выезду Уладыкі, самалёт раньняю парою апусьціўся на аэрадроме ў Лёндане. А гадзіне адзінаццатай таго самага дня Уладыка Андрэй быў ужо ў Манчэстэры, у доме Пратаерэя Яна, куды ўвечары прыбыў і кандыдат на йерэя Ян Пякарскі, і дзе абмеркавалася справа пасьвячаньня яго ў сан дыякана ў Брадфордзе.

Прыгожай раніцай у нядзелю 29-га жніўня адбылося падарожжа з Манчэстэру ў Брадфорд прыватнай машынай ахвярнага верніка брата Гінко, які суправодзіў Уладыку і ў далейшую мясцовасьць Нотынгам, дзе паводля ўпляланаваньня мелася адбыцца Багаслужба.

Прыехаўшы ў Брадфорд, сьпярша завіталі да гасьціннай сям'і Лемяшонкаў, дзе Уладыку спаткаў мітрафорны Пратаерэй а. Аўген, які прыехаў з Бельгіі на ўрачыстасьць рукапалажэньня.

Першая Архірэйская Багаслужба адбылася ў Праваслаўнай Украінскай Царкве. Пры ўваходзе ў Царкву Уладыку спаткаў з хлебам і сольлю Старшыня Царкоўнае Рады Украінскай парафіі, а ў Царкве — настаяцель парафіі Пратаерэй а. Міхаіл ды здаровыя й вясёлыя твары вернікаў.

Архірэйскую Багаслужбу ўзначальваў Уладыка Андрэй у асысьце мітрафорнага Пратаерэя а. Аўгена, Прат. а. Яна, Прат. а. Міхаіла і а. дыякана Канстантына Мацяшука.

Пасьля аблачэньня да катэдры Архірэя быў падведзены кандыдат на дыякана для пасьвячаньня яго ў іпадыяканы. Рукапалажэньне ў дыяканы адбылося ў часе Сьвятой Літургіі.

Пасьля Багаслужбы сьвятарства й госьці былі запрошаныя на супольны абед, прыгатаваны ў доме сям'і Лемяшонак, а пазьней усе паехалі да Беларуска-Грамадзкага Клюбу на прыняцьцё ў чэсьць Уладыкі. Пры ўваходзе ў дом адбылося сардэчнае спатканьне Уладыкі з хлебам-сольлю й з кветкамі. У часе пачастунку шчырае прывітаньне выгаласілі — Старшыня Галоўнай Управы ЗБВБ сп. Міхалюк, Сакратар сп. Калбаса, Пратаерэй а. Міхаіл і Др. Смірэка ад Украінцаў. Узрушаны

Ўладыка Андрэй, шчыра дзякуючы за прывітаньне, выказаў сваю радасьць ад спатканьня з вернікамі, зь якімі перад 10-ма гадамі, яшчэ ў сане йерэя, разам тварылі пачаткі рэлігійнага жыцьця ў Ангельшчыне.

У сыботу 4-га верасьня Ўладыка Андрэй меў даклад на тэму сучаснага стану БАПЦарквы ў вольным сьвеце, і аб жыцьці й дзейнасьці Беларусаў у Амэрыцы. На даклад сабраліся вернікі з Брадфарду, Лідсу й ваколіц. Па дакладзе разважаліся пытаньні рэлігійнага жыцьця, а галоўнае — надзённая неабходнасьць будовы царквы ў Брадфордзе, дзеля чаго Ўладыка раіў неадкладна выбраць будаўляны камітэт.

## ВІЗЫТАЦЫЯ Ў МАНЧЭСТЭРЫ

У нядзелю 5-га верасьня Архірэйская Служба Божая была ў Манчэстэры. Ужо а гадзіне 10-ай рана, калі яшчэ адбывалася ангельская Багаслужба, пачалі зьбірацца вернікі ня толькі з Манчэстэру, але й зь іншых местаў, і ня толькі Беларусы, але й іншанацыянальныя. У гэтай Багаслужбе ўжо прымаў удзел нававысьвячаны дыякан а. Ян Пякарскі.

Пасьля Херувімскай Песьні дыякан Ян прыняў пасьвячэньне ад Архіепіскапа Андрэя ў йерэі. Пасьля сьв. Літургія прадаўжалася звычайным парадкам і закончылася сьпевам „Магутны Божа" ды выгалашэньнем многалецьця Ўладыку, новапасьвячанаму сьвятару і ўсяму Беларускаму Народу.

Па Багаслужбе было прыняцьцё ў клубе, у чэсьць Уладыкі Андрэя й новапастаўленага йерэя.

У сыботу, на сьвята Сьцяцьця Галавы Яна Хрысьціцеля Багаслужба была адпраўлена ў капліцы ў доме Пратаерэя й Матушкі Абабуркаў.

Па Багаслужбе Уладыка Андрэй адправіў паніхіду над магілаю сьв. пам. Пратаерэя Палякова, які пахаваны на магільніку каля ангельскае царквы; і ангельскі сьвятар, які быў на той час у Царкве, запрасіў Уладыку ўвайсьці ў Царкву для сьвятаслаўленьня яе.

## У НОТЫНГАМЕ

Чарговая Саборная Архірэйская Багаслужба адбылася 12-га верасьня ў Нотынгаме. Багаслужбы тут адбываюцца ў прыгожай Царкоўцы з Іканастасам, якую добразычлівыя ангельцы адпускаюць для праваслаўных Беларусаў у Нотынгаме. Яшчэ перад прыходам Уладыкі гэтая Царква не магла зьмясьціць усіх вернікаў, і амаль палова стаяла ў праходзе й каля Царквы. Гэта была першая Багаслужба, у якой служыў новапасьвячаны сьвятар. Прыгожа сьпяваў хор пад кіравецтвам матушкі Паляковай.

Вернікі гэтае Парафіі — пераважна былыя лясныя стражнікі на Беларусі. Калі бальшавікі ў 1939 годзе занялі заходнюю частку Беларусі, то пачалася іхная акцыя вывазу людзей ім непажаданых. І лясныя стражнікі трапілі амаль у першую чаргу. Ім ня было пададзена ніякага абвінавачаньня, бо яны ня мелі ніякае віны. Іх хапалі бяз ніякіх высьненьняў, грузілі, як звыклы груз, у цягнікі ды вывозілі ў сібірскія нетры, дарогаю, якую паказаў маскоўскі царскі урад. Гэтыя людзі вельмі набожныя. З вялікай прачуласьцю яны ўспрынялі Архірэйскую Багаслужбу. Некалькі дзясяткаў душ прыступілі да споведзі й прычасьця. Супольнае маленьне, прачулая казань Уладыкі, прыгожы сьпеў хору ў часе Сьв. Літургіі, а на заканчэньне „Магутны Божа" —, усё гэта ўспрымалася з асаблівым пачуцьцём, зблізіла людзей духова, лучыла іх у адну хрысьціянскую сям'ю.



На супольным абедзе, у запоўненай людзьмі вялікай залі, Уладыка Андрэй з вялікім задаваленьнем знаёміўся з парафіянамі, зь якімі знаёміў Уладыку Пратаерэй а. Ян.

Пабыт і шчырае разьвітаньне з Беларускаю Грамадаю ў Нотынгаме пакінулі незабыўны ўспамін.

## У БІРМІНГАМЕ

У нядзелю 19-га верасьня Архіепіскап Андрэй разам з сьвятарствам і харыстамі накіраваліся ў Бірмінгам. Гэта вялікі мільяновы горад, але чамусьці тут знайшла прытулак невялікая колькасьць беларускіх сем'яў. Але на Багаслужбу прыбыло людзей ня менш, як і ў іншых наведаных ужо беларускіх асяродках: прыехалі людзі з Лёндану ды з суседніх Бірмінгаму местаў. Гэты-ж асяродак Беларусаў Уладыку добра знаёмы, бо часта яго наведваў, калі быў у сане йерэя, як жыў у Ангельшчыне.

Сьвятая Літургія была адпраўлена належным чынам, як і ў папярэдніх асяродках. Пасьля Багаслужбы Ўладыку давялося пачуць ад некаторых асобаў, што яны першы раз чуюць зьбеларушчаную Багаслужбу й казань у беларускай мове, і гэта іх вельмі ўзрадавала.

На супольнай бяседзе спажывалі добра прыгатаваны абед, спраўлены рукамі жанчын Ангелек — жонак Беларусаў.

У часе абеду выслаўляліся прывітаньні й прамовы, у якіх выказвалася думка набыць у Бірмінгаме дом і зрабіць там Беларускі Нацыянальны асяродак.

## У ЛЁНДАНЕ

У сталічным месьце Англіі — Лёндане Беларусы выбралі для Архірэйскай Саборнай Багаслужбы дзень 26-га верасьня. Ангельская Царква для Багаслужбы была замоўленая за колькі тыдняў раней. Як гэта ні дзіўна, але знайшоўся ліхадзей, які стараўся перашкодзіць адправе Багаслужбы й намаўляў ангельскага сьвятара ня даць Царквы для Саборнай Багаслужбы. Зразумела, гэта зрабіла на сьвятара толькі дзіўнае й нпрыемнае уражаньне.

Багаслужба ў успомненай Царкве мела распачацца пасьля ангельскае Багаслужбы. Таму яшчэ да прыезду Ўладыкі каля Царквы чакала яго вялікая грамада людзей. Як і ўсёды, напачатку адбылося ўрачыстае спатканьне, і адразу пасьля аблачэньня Ўладыкі пачалася Сьв. Літургія. Прыгожа пяяў мяшаны хор у суправодзе сп. Пікарды.

Пасьля Багаслужбы адбылося ўрачыстае прыняцьцё з абедам, які прыгатавалі жанчыны Беларускі, якія належаць да ЗБВБ.

28-га верасьня, на жаданьне Беларусаў з Лёндану, Уладыка Андрэй зрабіў даклад на тэму „ БАПЦарква й Беларускія арганізацыі ў Амэрыцы". Па дакладзе ставіліся й разважаліся пытаньні: аб стане старой беларускай эміграцыі ў Амэрыцы, аб спосабе злучэньня ўсіх беларускіх парафіяў у вольным сьвеце, аб служэньні некаторых Багаслужбаў пабеларуску, аб дзівоснай і варожай для БАПЦарквы дзейнасьці сьвятароў-Беларусаў, якія належаць да юрысдыкцыі Ўсяленскага Патрыярха, ды іншыя зьявішчы, якія ўносяць у нацыянальную грамаду фэрмэнты раскладу. Таксама, аб двудушнай дзейнасьці Еп. Мацьвея ў Лёндане, аб чым ён сам сьцьвердзіў неадказваючымі праўдзе данымі, якія паданыя

ў каляндарыку на 1971 год, дзе мянуе сябе Епіскапам Польскае Праваслаўнае Царквы й адначасна Епіскапам Беларускае Праваслаўнае Царквы. Выказваліся прысутнымі жаданьні аб цясьнейшым супрацоўніцтве Беларусаў у Амэрыцы з Беларусамі ў Ангельшчыне й аб выданьні брашуры ў ангельскай мове з нагоды 25-ці годзьдзя аднаўленьня БАПЦарквы на чужыне.

На ўсе гэтыя пытаньні Ўладыка Андрэй даў задавальняючыя выясьненьні.

## РЭЛІГІЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ У КЭМБРЫДЖЫ

(Паводля карэспандэнцыі брата Барыса)

Кажны чалавек у смутку ці ў радасьці жадае падзяліцца з другімі сваімі думкамі. Гэтак і я сяньня за пасярэдніцтвам прэсы хачу падзяліцца ўражаньнем, якое мела месца ў нас у Кэмбрыджы, у часе прыезду да нас Высокапраасьвячэннага Ўладыкі Андрэя.

Спатыкаючыся й сумуючы мы разважалі самі з сабою: няма ніякае пэўнасьці ці завітае да нас Уладыка, бо ў Кэмбрыджы жыве вельмі мала Беларусаў. Але раптоўна брат Гралеўскі прывёз радасную вестку, што Ўладыка Андрэй будзе служыць у нас 3-га кастрычніка. Гэта вельмі моцна узрадавала нас, і з дапамогаю прыязнае да Беларусаў Ангелькі с-ні Чэрры распачаліся захады знайсьці царкву для Багаслужбы. Справа гэтая была ня лёгкаю, бо ў гэты дзень ўва ўсіх цэрквах адбываліся Багаслужбы, бо была „Хрысьціянская нядзеля". Але пасьля звароту да настаяцеляў некалькіх цэркваў ўдалося здабыць ня толькі прыгожую Царкву для Багаслужбы, але вялікую залю, дзе быў прыгатаваны абед у чэсьць Уладыкі й гасьцей. Да больш радаснае ўрачыстасьці спрычынілася й цёплая сонечная пагода. У вызначаны час ужо даволі вялікая грамада людзей чакала каля Царквы, каб спаткаць дастойнага Ўладыку з хлебам і сольлю. У гэтай грамадзе былі ня толькі Беларусы, але й Украінцы й Расейцы, і жонкі Беларусаў каталіцкае веры й Ангельцы, якія даведаліся аб Архірэйскай Багаслужбе з паданае абвесткі ў мясцовую газэту. Прыехалі Беларусы й з Лёндану з кіраўніком Галоўнае Ўправы ЗБВБ сп. Міхалюком і Ангелькаю Вераю Рыч, паэткаю, якая пераклала выбраныя вершы з беларускае паэзіі на ангельскую мову, а сёньня сваім прыгожым альтам упрыгожвала хор. Чакалі на прыезд Уладыкі й сьвятары: Пратаерэй Я. Абабурка і а. Я. Пякарскі, якія асыставалі Ўладыку ў часе Багаслужбы.

Вось пад'ехала да Царквы машына, зь якое высеў наш вялікі Духоўнік Нацыянальнае Незалежнае Царквы й Малітоўнік за Беларусь і Яе Народ Архіепіскап Андрэй.

Пры ўваходзе ў Царкву спатыкаюць Яго палкімі словамі Ангелька з Беларусам, а ў Царкве а. Ян Пякарскі. Пасьля аблачэньня Ўладыка багаслаўляе Прат. Я. Абабурка, які гучным басам распачынае Багаслужбу, а потым далучыўся да яго й а. Я. Пякарскі з сваім прыгожым тэнарам. Грэцкі Сьвятар з сваімі парафіянамі, адправіўшы сьв. Літургію для Грэкаў, гэтак сама прышоў да нас. Хор мэлёдыйным сьпевам пабуджаў вернікаў да малітоўнага пачуцьця. Прыгожая пропаведзь Уладыкі на эвангельскую тэму і аб значэньні БАПЦарквы ўзрушыла вернікаў да сьлёз.

Пасьля Багаслужбы ўсе былі запрошаны на супольны абед і перайшлі у вялікую залю, дзе ўжо быў прыгатаваны на дзіва багаты абед, стараньнем бр. Гралеўскага, шчырай прыяцелькі Беларусаў сп-ні Чэрры й Матушкі Аляксандры ўладжаны. Пасьля асьвячаньня ежы й пасілкаў распачаліся прамовы: Старшыні Галоўнае Управы, сп. Гралеўскага, прадстаўніка ад Украінцаў, с-ні Веры Рыч і Ўладыкі Андрэя, ды Грэцкага Сьвятара. Пасьля кажнае прамовы прысутныя гучна сьпявалі Многія Леты! Ня менш важным для нас было й знаёмства нашых сьвятароў з Сьвятаром Грэцкім, якія дагаварыліся супольна абслугоўваць праваслаўных вернікаў у Кэмбрыджы й ваколіцы.*).

Вось гэткаю нашаю радасьцю я й хацеў падзяліцца з усімі.

Вернік **Барыс**

У часе пабыту ў Кэмбрыджы Ўладыка адведаў хворых, і аднаму зь іх удзяліў Таінства споведзі й Сьв. Прычасьця. Гэта няшчасны чалавек, які ўжо 7 год ляжыць у ложку й жыве толькі дзякуючы добраму лекарскаму дагляду ды дзяржаўнаму забясьпечаньню.

Кэмбрыдж быў астатнім местам візытацыі.

Перад ад'ездам у Амэрыку адбылася нарада Ўладыкі Андрэя з сьвятарамі, якім Архіепіскап даваў настаўленьні для далейшай працы на рэлігійнай ніве й радзіў пакласьці больш высілкаў на арганізацыю парафіяльных Радаў, а перадусім дбаць пра набыцьцё царкоўных будынкаў.

Адведаньне ўсіх асяродкаў, дзе згрупаваны Беларусы ў Англіі, даклады Ўладыкі, прыватныя кантакты з людзьмі розных нацыянальнасьцяў, паразуменьні з сьвятарамі іншых нацыянальнасьцяў, як і павялічэньне ліку беларускага сьвятарства, павялічыла й аўтарытэт БАПЦарквы, падняло на духу вернікаў ды падмацавала сьведамасьць таго, што без свае незалежнае Царквы ня можа быць поўнага нацыянальнага жыцьця, як і поўнай незалежнасьці дзяржаўнай.

Час візытацыі Ўладыкі Андрэя, ад 29-га жнівеня да 7-га кастычніка, напэўна застанецца ў добрай памяці ня толькі Ўладыкі, але й вернікаў ды сымпатыкаў БАПЦарквы ў Англіі.

**Аздін з вернікў**

*) Гэта сьвятар юрысдыкцыі Архіепіскапа Макарыёса на Кіпры. Даведаўшыся аб прыезьдзе Архіепіскапа Андрэя, ён наведаў Уладыку на кватэры, каб абгаварыць справу супольнага абслугоўваньня вернікаў. У нядзелю ў Царкве пазнаёміўся з абодвымі нашымі сьвятарамі; а на абедзе, дзе яго сардэчна віталі, былі азначаны вехі пачатковага супрацоўніцтва.

## БАРАЦЬБА ЗА ЦАРКВУ

У кастрычніку мінулага году бальшавікі пастанавілі зьліквідаваць царкву ў вёсцы Зарачанцы, Горадзенскай вобласьці. Царкву забралі пад магазын збожжа. Усё нутраное абсталяваньне вывезьлі. Тады людзі заявілі, што „без царквы яны жыць ня могуць", і на працягу трох дзён ня выходзілі на калгасную працу й ня пусьцілі дзяцей да школы. Настаўнікі былі змушаныя даіць каровы. З Горадна прыслалі студэнтаў да працы ў калгасе, але яны адмовіліся ад працы.

Кіравецтва „облісполкому" змушанае было сваю пастанову ўняважніць, збожжа з царквы вывезьці, вярнуць забранае царкоўнае абсталяваньне й адчыніць царкву для яе ўласьцівага прызначэньня.

(„Дзеннік Польскі" і „Дзеннік Жолнежа", № 206. Лёндан.)

# ЗМОУКЛІ ЗВАНЫ СЬВЯТОЙ САФІІ

*„А наш народ праліў крыві свае нямала.*
*Наш край скалёсілі гарматы не адны.*
*Гісторыя усю нам славу захавала,*
*Хоць ня гудуць аб ёй магутныя званы".*

**Ю. Фарботка** — Звон.

Бадай у кожнага народа, акрамя ягонай сучаснай сталіцы, ёсьць свой матчын горад, які ён любіць і шануе. Для Беларусаў ім зьяўляецца Полацак — калыска нашае культуры й дзяржаўнасьці. Горад, што займеў імя, як сьведчыць яшчэ „Пачатны летапіс" ад рэчкі: „якая ўцякае ў Дзьвіну, іменям Палата". Горад, вольналюбную адпорнасьць якога з праклёнам адбіла скандынаўская сага ў сваёй прыпеўцы — „Ударылі ў мячы!". Горад, што далучыў, як сьведчыць „Слова аб палку Ігаравым" да агульнага назову сваіх грамадзянаў — „палачане" — яшчэ паказальнае адзначэньне „грозныя". Горад Рагвалода, Рагнеды-Гарыславы, Брачыслава, Усяслава Чарадзея, сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы, Лазара Богшы, дойліда Івана, Якуба Палачаніна, Францішка Скарыны. Горад, у якім трапіўшы на абмытае крывёю прашчураў узвышша Ўзгорскага замку, дзе стаіць Сафійскі сабор, ськіваеш з галавы шапку.

Натуральна, што за адзінаццаць стагодзьдзяў свайго гістарычнага існаваньня слаўны Полацак мусіў мець шмат каштоўных помнікаў мінулага, але гэтак на жаль ня сталася. Да іхняе пагібелі спрычыніліся ня толькі нязьлічоныя войны, а таксама абыякавасьць чарговых урадоўцаў ды сьвядомая варожасьць.

Таму хоць і вельмі ўжо далікатна, але зусім слушна У. Халіп у сваім нарысе „Залатое кальцо старажытнасьці" з цыклю „Ахове помнікаў — сілу закона", зьмешчаным залетась у газэце „Чырвоная зьмена", маючы на ўвазе савецкую рэчаіснасьць, адзначае: „Нашы ўзаемаадносіны з помнікамі старажытнасьці — гэта безьліч парадоксаў". І хай сабе У. Бойка і М. Земскі у сваім артыкуле з характэрным загалоўкам „Другая маладосьць Сафіі Полацкай" („Літаратура і мастацтва" ад 5-га жніўня 1969 г.) і захапляюцца: „Але вось добрыя рукі кранаюцца Сафійкі... Мудрыя рукі рэстаўратараў..." аднак, дадам, няма ў нас аніякае веры ў дабразычлівасьць да яе тых, хто гэтымі рэстаўратарамі кіруе. І дарэчы — мянуючы сабор сьвятой Сафіі Сафійкай, ці ня йдуць два кагадзе прыгаданыя аўтары сьледам за футурыстычным вульгарызатарам Маякоўскім, які вядомы храм Васіля Блажэнага ў Маскве перайначыў на Ваську?



Сучасны Сафійскі сабор не зьяўляецца помнікам сівой старадаўніны. Пабудаваны ў 1750-м годзе ў стылі позьняга барока, ён уяўляе з сябе, хоць і паўнацэнны ў архітэктурным сэнсе, але усё-ж футарал над рэштkамі старажытнай Сафіі, якая часткова ўвайшла ў адну са сьценаў цяперашняга будынку, а галоўным чынам захавалася ў ягоным сутарэньні. Да Другой сусьветнай вайны сабор скарыстоўваўся, як збожжасховішча. Сотні пудоў збожжа былі ссыпаныя беспасярэдня на падлогу, якая ў выснаве асела, і не правалілася канчаткова толькі таму, што яе зьнізу падтрымлівалі пілоны — цагляныя слупы старой Сафіі.

Навуковая экспедыцыя дзеля ўліку помнікаў гісторыі й мастацтва, якую мне давялося ачольваць, зьвярнулася ў 1939-м годзе з просьбай аб высяленьні збожжасховішча ў шэраг установаў ад Полацкага гарсавету да Саўнаркома БССР улучна, але бяз посьпеху. Па вайне тыя-ж тысячагадовыя пілоны замест збожжа падтрымлівалі ня меншы цяжар папераў Полацкага архіву. І такім чынам безнадзейна разбураюцца рэштkі тае Сафіі ,што пабудаваная паміж 1037-45 гадамі, гэта значыцца за часы князя Брачыслава, бацькі Ўсяслава Чарадзея.

Калі старая Сафія дайшла да нашых дзён часткова, дык амаль цалкам перахавалася царква Спаса ў Спаса-Еўфрасіньнеўскім жаночым манастыры, пабудаваная ў другой палове 12-га стагодзьдзя дойлідам Іванам на жаданьне сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы, унучкі Ўсяслава Чарадзея. Гэты манастыр, дзе сьвятая Еўфрасіньня-Прадслава і ейныя сёстры — па крыві й па стану — перапісвалі кнігі, пісалі абразы, ткалі царкоўныя шаты, стаўся адным з першых асяродкаў культуры на Беларусі. А ў царкве Спаса, што зьяўляецца найвыдатным помнікам старадаўнага дойлідства, перахоўвалася нацыянальная сьвятыня беларускага народу — крыж сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы работы Лазара Богшы. Ён бясьследна зьнікнуў, але не за часы вайны, нібы скрадзены немцамі, як цяпер спрабуюць давесьці саветчыкі, а забраны апошнімі яшчэ ў 1932-м годзе для патрэбаў „Фонда індустрыялізацыі".

Даравіты дойлід Іван пабудаваў яшчэ ў Полацку цэрквы Бельчыцкага манастыра, а паміж імі Барысаглебскую, фундатарам якой зьяўляўся князь Барыс, дзядзька сьвятой Еўфрасіньні-Прадславы. Гэта ад яго пайшлі вядомыя Барысавы камяні з прачулым зваротам да Бога, а ў царкве меўся ягоны патрэт-фрэска. У іншай тутэйшай царкве хаваліся полацкія князі. Усе гэтыя каштоўныя рэлігійныя, гістарычныя й архітэктурныя помнікі праіснавалі ад 12-га стагодзьдзя да 1928-га году, калі бальшавікі іх бяз жалю разбурылі дашчэнту.

Яшчэ нядаўна цэнтр Полацка ўпрыгожваў велічны Мікала-

еўскі сабор, пабудаваны ў 1588-м годзе ў стылі позьняга рэнэсансу з прымешкай барока. Доўгі час гэты будынак зьяўляўся самым высокім у Віцебскай губэрні, і характэрна што ягоныя сьцены ў скляпеньні мелі ў таўшчыню дзесяць мэтраў. Хоць сабор, як архітэктурны помнік, знаходзіўся пад дзяржаўнай аховай, тутэйшыя ўлады яго бяз відавочнай патрэбы некалькі год таму назад падарвалі. А ў 1932-м годзе разбурылі пабудаваны перад ім у 1855-м годзе прыгожы абеліск-помнік вайны 1812-га году, каб на ягоным мейсцы паставіць помнік Леніну. Між тым, за часы тае вайны ў Полацку і ў ягонай ваколічнасьці адбыліся лютыя бітвы. Дагэтуль тутэйшы мост на Палаце мае назоў Чырвонага ад тагачаснай салдацкай крыві. І ці ня зьяўляецца зьнішчэньне помніка, які ушаноўваў памяць тых салдат, зьдзекам з іхнае крыві?

Затое здавалася застаецца толькі цешыцца, што на Ленінскай вуліцы, на будынку колішніх манаскіх кельляў Богазьяўленскага манастыру зьявілася мэмарыяльная дошка з напісам:

„Сымон Полацкі. 1629-1680. Беларус з Полацка".

Пэўне-ж, толькі цешымся мы таксама й з таго, што ўвесь гэты манастыр разам з ягоным саборам узятыя пад дзяржаўную ахову. Аднак ведаем і тое, што паводля генэральнага пляну Полацка, які прадбачыць рэканструкцыю ўзьбярэжнай Дзьвіны, усе гэтыя старадаўныя будынкі, разам з мэмарыяльнай дошкай, падлягаюць зьнішчэньню.

А як наўсуперак гэтаму зьнішчэньню хочацца думаць, што калі ў Бэрліне й Майнцы стаяць помнікі Іогану Гутэнбергу, у Маскве Івану Фёдараву, а ў Празе схіліўся над друкарскім варштатам Сэверын Крамарж, дык на адзін з пляцоў дарагога Полацку прыйдзе нарэшце, узыйдзе на пастамэнт і застыгне ў бронзе Францішак Скарына — „сын Лукаша з Полацку". І як жа таксама хочацца думаць, што на стромкія званіцы Сафійскага сабору, на зьмену мілагучным званом, здрушчаным бальшавікамі ў 30-х гадох, новыя палачане ўзьнімуць новыя званы, а тыя сваім палкім заклікам прыгадаюць аб тых старадаўных званох, аб якіх, маючы на ўвазе вялікага патрыёта князя Ўсяслава Чарадзея, згадала „Слову аб палку Ігаравым" у сваіх прачулых радкох:

„У Полацку у сьвятой Сафіі звоняць на заутраню,
ён у Кіеве званы гэтыя чуе".

**Юрка Віцьбіч**









## ЛЯОНЦІ КАРПОВІЧ — АРХІМАНДРЫТ СЬВЯТАДУХАЎСКАГА МАНАСТЫРА Ў ВІЛЬНІ (1589-1620)

Гісторыя — настаўніца жыцьця, казалі старадаўныя філёзафы, — камора скарбаў народу, люстэрка жыцьця й творчасьці ягонай. Гісторыя — крыніца натхненьня для духовых кіраўнікоў народу, якая зьбірае добрыя й благія весткі з жыцьця й дзейнасьці таго ці іншага народу. Народ, які ня ведае духовых скарбаў сваіх папярэднікаў, блукае ў цемры, ня могучы належна выкарыстаць сваіх Божых дараў Духа, і часта ўзбагачвае сваімі талентамі іншыя народы, часамі навет сваіх непрыяцеляў.

Зусім зразумела чаму нашыя нацыянальныя непрыяцелі заўсёды стараліся зацямніць, або навет зьнішчыць нашыя духовыя скарбы, ці прысабечыць іх, і гэткім спосабам пахаваць нашую гісторыю, як духовую, гэтак і сьвецкую. Асабліва-ж гэта выразна ў гісторыі нашае Праваслаўнае Царквы, аб якой нашыя „добрыя" суседзі стараліся й цяпер стараюцца стварыць уражаньне, што быццам Беларускае Праваслаўнае Царквы ня было ніколі. А тым часам яна ня толькі была, але была й вельмі багатая, прыгожая, слаўная.

Адным з выдатных рэлігійных і вельмі слаўных ды непахісных змагароў за Праваслаўную веру й за сваю Беларускую Праваслаўную Царкву ў 16-тым стагодзьдзі быў Архімандрыт Ляонці Карповіч.

Нарадзіўся Ляонці (да манаства Лонгвін) Карповіч, бадай, у 1580 годзе (дата няпэўная) у шляхоцкай сям'і на Піншчыне; дзе атрымаў адукацыю — няведама. Няведама таксама калі пайшоў у Сьвятадухаўскі манастыр у Вільні. Але дакладна ведама, што быў высокаадукаваным чалавекам, добра ўладаў грэцкаю, лацінскаю й польскаю мовамі, карыстаўся сярод сваіх суродзічаў славаю першараднага царкоўнага красамоўцы й сьвецкага прамоўцы; і гэта сьветчыць, што прайшоў тагачасныя вышэйшыя школы. Красамоўства ягонае сучасьнікі параўноўваюць да красамоўства Яна Залатавуснага. Талентам ягоным захапляліся пісьменьнікі-палемісты, называючы Архімандрыта Ляонція „Мужам Боганатхнёным", выдатна апанаваўшым грэцкую мову, і абаронцам пабожнасьці.

Дзеля таго, каб зрабіць свае думкі пераконваючымі й зразумелымі, Архімандрыт Ляонці вельмі часта карыстаўся прыкладамі-дасьледаваньнямі з навакольнага жыцьця, і асабліва з Сьв. Пісьма Старога й Новага Запавету ды з твораў славутых у тым часе царкоўных пісьменьнікаў.

Ён ня толькі пераказваў зьмест з прачытанага Эвангельля, але прымушаў вернікаў перажываць разам зь ім напісанае ў Сьв. Эвангельлі.

Сваімі палымянымі цудоўнымі словамі ён злагадняў і паднімаў душы вернікаў да неба, да Бога. Як дасканалы знаўца Сьв. Пісьма, ды чароўны прамоўца, Архімандрыт быў у запраўднасьці другім беларускім Залатавусным пасьля Кірылы Тураўскага.

Усе ягоныя творы прасякнуты маральна-навучальным зьместам, заклікам да пакаяньня й самаўдасканаленьня, заклікам не захапляцца выгадамі зямнога жыцьця ды больш дбаць пра нябеснае, заклікам застацца цьвёрдым у Праваслаўнай веры.

Уся ягоная творчасьць яшчэ не сабраная й чакае сваіх беларускіх дасьледчыкаў. З твораў да нас толькі дайшлі: „Казаньне на Праабражэньне Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста, Казаньне на Ўсьпеньне Прасьвятой й Праблагаслаўленнай Уладычыцы нашай Багародзіцы Прысно Дзевы Марыі". якія былі надрукаваныя ў аднэй кніжцы ў друкарні ў Еўі ў 1615 годзе, і „Навукі ў нядзелю перад Раством Хрыстовым" — выдаў ў Кіеве ў 1908 годзе С. І. Маслоў.

Апрача ўспомненых твораў, згодна сьветчаньня прафэсара Івана Ўласаўскага, у бібліятэцы ў Кіева-Пячэрскай Лаўры знаходзіўся вялікі зборнік казаньняў з 17-га стагодзьдзя, аўтарам якога прынята было ўважаць Віленскага Архімандрыта Ляонція Карповіча, над якім праводзіліся досьледы, ці запраўды гэты зборнік належыць пяру Архімандрыта.

Рэлігійна-грамадзкая дзейнасьць Архімандрыта Ляонція распачалася ў студзені 1609 году, калі Архімандрыт у складзе віленскіх паслоў выступаў на „Варшаўскім Вальным Сэйме" у абароне Праваслаўнае веры, супроць самаўладнае дзейнасьці вунійнага Мітрапаліта Іпація Пацея, які адабраў у Віленскіх мяшчанаў 12 Праваслаўных цэркваў і Брацкі Троіцкі Манастыр для вуніі. Праўда, гэтая ягоная місія не дала належных вынікаў, бо пратэст Праваслаўных быў адхілены польскімі ўладамі.

У 1610 годзе, будучы старшым друкаром і карэктарам Віленскай Брацкай друкарні, Архімандрыт Ляонці выдаў твор Мялеція Сматрыцкага „Фрынас". За выданьне гэтае кнігі, на загад польскага караля Сыгізмунда III Вазы, быў арыштаваны й пасаджаны на два гады ў астрог, як дзяржаўны злачынец.

Пасьля звальненьня з астрогу ўзначаліў барацьбу Віленскага Праваслаўнага Брацтва супроць Берасьцейскай царкоўнай вуніі.

У 1618 годзе Архімандрыт Ляонці пастрыг у манахі ведамага царкоўнага дзеяча й аўтара першае беларускае граматыкі — Мялеція Сматрыцкага, які пазьней быў Епіскапам Епархіі Полацкай, Віцебскай і Мсьціслаўскай.

У 1620 годзе пры аднаўленьні Епархіі Берасьцейска-Ўладзімерскай, якую ў часе прагалошаньня Берасьцейскай вуніі займаў Епіскап Іпаці Пацей, згодна граматы Патрыярха Феафана, Архімандрыт Ляонці атрымаў намінацыю на Епіскапа Берасьцейска-Ўладзімерскага, але да хіратоніі не дачакаўся. Памёр у маладым веку ў палове верасьня 1620 году.

На яго месца быў высьвячаны Архімандрыт Язэп (у сьвецкім жыцьці Езакііль) Карыянтовіч-Курцэвіч, які быў таксама знатнага роду, з тагачасных князёў Вялікага Княства Літоўскага (ад сына Вялікага князя Гэдыміна, Карыянта). Архімандрыт Язэп Епіскапам быў пастаўлены на 26 годзе жыцьця. Вучыўся ў унівэрсытэце ў Падуі. Манаства атрымаў на гары Афоне ў Грэцыі. Да свае катэдры Епіскапу Язэпу Курцэвічу дастацца, аднак, не ўдалося, бо каралеўскім унівэрсалам быў выданы загад схапіць яго, дзе-б ён ні зьявіўся, і аддаць пад суд як бунтаўніка й шпіёна.

Як і Архімандрыт Ляонці Карповіч, Епіскап Язэп быў выдатным пэдагогам і палемістым, актыўным і рашучым дзеячом. Гэта ў спалучэньні з шырокімі ведамі й літарацкім талентам ставіла яго ў рады выдатнейшых тагачасных літаратараў. Ягоныя літаратурныя творы адзначаліся ўзьнёслым, глыбака эмацыйным рэлігійным пачуцьцём і высокімі літаратурна-мастацкімі якасьцямі.

Такіх выдатных пастыраў мела нашая Праваслаўная Царква. Як Архімандрыт Ляонці Карповіч, гэтак і Епіскап Язэп, былі вялікімі сынамі Беларускага Народу, прадстаўнікамі нашае духовае велічы, глыбокае пабожнасьці, краса душы нашых продкаў, барацьбіты за Праваслаўную веру.

**Апрацаваў Арх. Андрэй**

## СУПРАЦЬХРЫСЬЦІЯНСКАЯ АКЦЫЯ БАЛЬШАВІКОЎ

На шостым дзясятку год свайго ўладараньня бальшавікі ўзмоцнілі свой галас пра ўзгадаваньне „савецкага чалавека". Адначасна ўзмагаецца й настырлівае, злоснае й разьюранае змаганьне з хрысьціянствам. І гэта зусім зразумела. Гадоўля гэтага савецкага „чалавека" амаль цалкам месьціцца ў супрацьхрысьціянскай акцыі. Бо хрысьціянства стала запораю на дарозе ўзросту гэтага чалавека.

Агітпрот савецкі не падае ўзору свайго чалавека, і дарма было-б шукаць, — у агітпропе праўды ніколі ня знойдзеш. Але хто-ж можа быць лепшым узорам, калі не настаўнікі бальшавізму? У СССР — гэта Ленін і Сталін, і перадусім Ленін. Ён стварыў контур гэтага савецкага чалавека й пусьціў у рух усю машыну бальшавіцкага строю. Сталін нічога новага ня ўнёс. Ён толькі даў найяскравейшы ўзор бальшавіка, паказаў

яго, як кажуць, у нагаце сваёй, і самі бальшавікі спужаліся гэтае нагаты, і нібы выцураліся Сталіна для вока людзкога. Гэткія-ж „савецкія чалавекі", як Ленін ці Сталін ці іхныя насьлядоўцы, лепш-бы не раджаліся на сьвет.

Напханы матарыялізмам, бальшавізм разглядае чалавека так, як і кажную іншую жывёліну. I на гэтай жывёльнай, зьвярынай частцы чалавечай істоты, якая ў чалавеку яшчэ досыць значная, будуе сваю ўладу. Таму для бальшавікоў так лёгка дапушчальна было зьнішчыць дзясяткі мільёнаў людзей і таму так безагляднa лёгка запіхаць здаровых людзей у псіхіятрычныя спэцыяльныя заклады, дзе намагаюцца калечыць душы людзкія, і так лёгка ўздымаць зьнішчальныя акцыі супраць чалавечых пераконаньняў, жыцьцёвых укладаў і веры, балазе фізычная сіла цяпер па іхным баку.

Хрысьціянская навука мае дачыненьні з чалавекам адухатвораным, дзе кажная адзінка мае сваю асаблівасьць і сваю цану, і дзе ў аснову сужыцьця людзкога кладзецца любоў, а ня тое праклятае „клясавае змаганьне". Дарэчы сказаць, што ў СССР клясаў тых якія дралі вочы бальшавіком, ужо няма — затое стварыліся новыя, савецкія, з партыйнай кастай наверсе. А змаганьне тое ня спыняецца, і тых „ворагаў народу" не зьмяншаецца. Бязумоўна, хрысьціянства становіць абсалютную супярэчнасьць бальшавізму і на ніякія кампрамісы з бальшавізмам ня пойдзе. Таму на яго з такою зацятасьцю й разьяранасьцю бальшавікі й нападаюць.

Змаганьне з хрысьціянствам вядзецца пад шыльдай атэістычнай прапаганды. Але й тут агітпроп лжэ. Атэізм, скажам так, — субстанцыя не актыўная, а хутчэй пасыўная: адмова веры ці абыякавасьць. А такія злосныя наскокі на хрысьціянства й зацятасьць, і сталасьць змаганьня, каб зьнішчыць яго — гэта не з атэізму паходзіць. Фактычна супраць хрысьціянства бальшавікі выстаўляюць сваю рэлігію, якой пакуль што няма яшчэ назову і якую можна прыблізна акрэсьліць, як некае кабальнае ідалапаклоньніцтва. Калі Хрыстовую навуку людзі крытыкуюць, то, аднак, за гэта кары не паносяць. А хто адважыцца крытыкаваць „навуку" Леніна, каб ня быць за гэта абвешчаным псіхічна хворым ды запратаным у тыя жахлівыя псіхіатрычныя заклады? Або высланым у канцэнтрацыйныя лягеры? А што азначае паломніцтва да маўзалею Леніна на пакланеньне? I колькі-ж ужо набудавана й настаўлена істуканаў з падабенствам Леніна? I мэталёвых, і мінэральных, і дрыўляных, і плястыковых, і саламяных, і парцяных, — з чаго, з чаго ўжо ня роблена? I дзе ня стаўлена? I зь іх можна-б скласьці вежу вышэйшую за Вавілёнскую. Вось гэтую сваю веру ў свайго зямнога бажка бальшавікі хочуць убіць у галовы людзкія, і дзеля гэтага ім трэба выціснуць з галоваў і сэрцаў людзкіх веру ў Хрыста.

Супрацьхрысьціянская акцыя ў цяперашнія часы становіць, бадай, галоўную рупнасьць бальшавіцкае партыі. У гэтую акцыю бальшавікі стараюцца ўцягнуць тым ці іншым спосабам бальшыню насельніцтва. У першую чаргу вышкольваюць адмысловых лектараў і прапагандыстых. Потым, забавязваюць кажнае прадпрыемства — ці то фабрыка, ці калгас, ці школы ўсіх ступеняў і вышэйшыя вучэльні, навет бальніцы — усё наставіць на змаганьне з рэлігіяй. Пераважна дзеля гэтага адчыняюць адмысловыя „народныя ўніверсытэты", ладзяць сэмінары, спраўляюць урачыстыя, савецкія нарадзіны, шлюбы, каб недапусьціць хрысьцінаў і шлюбаў царкоўных. Партыйныя пастановы ўсьцяж вымагаюць, каб уся прэса ўлучылася ў гэтае змаганьне.

„Дваццаць другі зьезд (КПСС) паставіў перад партыйнымі арганізацыямі задачу — стварыць прадуманую сыстэму навукова-атэістычнага выхаваньня, якая ахоплівала-б усе слаі насельніцтва й прадухіляла распаўсюджваньне рэлігійных поглядаў" (З матарыялаў 22-га Зьезду КПСС).

„Кіруючыся ўказаньнямі ЦК КПСС аб неабходнасьці ў рабоце атэістычнага выхаваньня насельніцтва шырока выкарыстоўваць друкаваныя выданьні, ЦК КПБеларусі штодзённа накіроўваў работу газэт і часопісаў рэспублікі, праяўляў нясьпынны клопат аб павышэньні іх ролі ў навукова-атэістычнай прапагандзе".

„Паўсядзённая (штодзённая, С-кі) работа партыйных і грамадзкіх арганізацый пры актыўным удзеле друку рэспублікі дазволіла стварыць падрыхтаваныя, масавыя кадры атэістаў. Ужо ў 1965 г. ў рэспубліцы налічвалася 5,5 тысячаў лектараў, да 1,4 тысячаў прапагандыстаў і каля 23 тысячаў агітатараў, якія ўдзельнічалі ў атэістычным выхаваньні насельніцтва. (Усе выпіскі ўзятыя з „Весьцяў Акадэміі Навук Беларускай ССР" № 4, 1971).

Вось чым Акадэмія „незалежнай" рэспублікі „Беларускай ССР" выпраўдваецца й пахваляецца ў пакорнай паслузе перад маскоўскімі ўладарамі! I гэта пахвальба не парожная, як тая пра бальшавіцкія дасягненьні. У запраўднасьці прапагандовы ціск шмат большы й горшы — пад кантроль узятая кажная сям'я. А пра фізычныя зьдзекі й тортуры бальшавікі, зразумела, маўчаць.

Натуральна, паўстае пытаньне: якія, ўсё-ж, вынікі гадоўлі „савецкага чалавека" й змаганьня з рэлігіяй? „Савецкі чалавек" — гэта пусты гук агітпропу. Можна сказаць, што яго ў множным ліку няма й напэўна ня будзе, бо й сам гэты агітпроп не ўяўляе сабе яго.

Што-ж да веры, то на яе меркі няма. I зусім не парадоксам будзе цьверджаньне, што вельмі часта у чалавека, які кажа — ня веру (у Бога) —, больш веры як у таго, які кажа — веру. I тут ніякія анкеты, ні што іншае запраўднага стану не пакажуць. А сам факт, што антыхрысьціянская напорнасьць узмагаецца, завастраецца, сьветчыць, што бальшавіцкая супрацьхрысьціянская акцыя послуху ў народзе ня мае.

Часамі ў савецкія газэты трапляюць характэрныя карэспандэнцыі, якія кідаюць сьвятло на запраўдны стан рэчаў. Адна з такіх карэспандэнцыяў была зьмешчаная ў газэце „Советская культура" за 4-га лютага сёлета пад загалоўкам „Але атэістым быць павінен".

Хтось Пепеляеў, інструктар агітпропу ЦК КПБеларусі, піша:

„Насуперак запэўненьням атэістых аб адміраньні рэлігіі я заўважыў у царкве места Віцебску ня толькі старэнькіх, але многа маладых дзявочых твараў — работніц Віцебскай фабрыкі „Кім".

„Я даведаўся, — кажа ён, — што ў 1968 годзе ў горадзе было ахрышчана кажнае чацьвёртае нованароджанае. Сюд-тут ды й стане хтось з маладых пад вянец, маючы ў кішані камсамольскі білет... Барацьба з рэлігійнымі перажыткамі ў нашы дні не перастае быць цяжкою справаю".

Але-ж, якія гэта перажыткі, калі вянчаюцца маладыя з камсамольскім білетам у кішані? I каб выясьніць гэтую цяжкую справу, атэісты правялі ў калгасе „Чырвоная зьвязда" апытаньне. Было пашырана 337 анкет, у тым ліку й прадстаўнікам вясковай інтэлігенцыі.

„У тым-жа часе, — кажа далей Пепеляеў: — да пракананых атэістых залічылася толькі 6,5 працэнтаў апытаных, да няверачых — 20,4 прц., да няпэўных — 10,6 прц.; да абыякавых і да рэлігіі й да атэізму — 10,4 прц., а ўся рэшта — верачыя!..."

Ясна з гэтае анкеты адно: што 52,1 працэнтаў наставілася катэгарычна супраць бальшавіцкае атэістычнае прапаганды, а 30 прц. прыхавалася, каб не спавядацца перад агітпропам; не канечне й тыя 20,4 прц. няверачыя.

Яшчэ больш трывожацца вернікі бальшавіцкія адказамі на пытаньне анкеты: — што спрычынілася да рэлігійнасьці? З адказаў высьвятляецца, што найбольш — выхаваньне ў сям'і, потым — уплыў і гутаркі сьвячэнна-служыцеляў, наведваньне царквы й касьцёлу, і менш — зносіны з верачымі, чытаньне рэлігійнай літаратуры, асабістыя няшчасьці, хваробы, матарыяльныя цяжкасьці.

„Такім чынам, — заўважае Пепеляеў: — параўнальна высокі адукацыйны ўзровень калгаснікаў мала ўплывае на стан рэлігійнасьці. Устойлівасьць рэлігійных паглядаў падтрымліваецца іншымі чыньнікамі!"

„Вось што кажуць самі верачыя: Адна даярка (адукацыя 7 клясаў) тлумачылася так: — Я ніколі не задумвалася ці ёсьць Бог. Муж у мяне памёр, дзяцей няма, блізкіх родных таксама няма. От я й хаджу ў касьцёл уцяшаць душу сваю, пяю ў хоры, вельмі люблю музыку. І неяк яно становіцца жыць лягчэй..."

Гэтае асьветчаньне вельмі характэрнае. Вядома, даярцы не канечне было спавядацца перад агітпропам, дый не бясьпечна гэта — выказаць праўду да канца, што ні ў савецкай прапагандзе ні ў савецкага „бажка", ні ў самым бальшавізьме духовай пацехі ня знойдзеш.

Бальшавізм начале з сваімі „багамі" прынёс на зямлю няволю зьдзек, зьнішчэньне, народагубства, разьлевы крыві, — там духовай уцехі ня знойдзеш, і шукаць яе там страшна.

І натура рэчы так паказвае, а й факты прамаўляюць, што чым больш агітпроп будзе назаляць людзям і вярэдзіць душы людзкія, тым больш людзі, шукаючы пацяшэньня духовага, будуць звярачацца да Бога добрага, ласкавага, міласэрнага, Таго Хто сказаў: Прыдзеце да мяне ўсе струджаныя, і Я заспакою вас. **С-кі**

---

## ТОРТУРЫ ХРЫСЬЦІЯН У СССР

„Дзеннік Польскі" й „Дзеннік Жолнежа" падаюць:

Вена, 29. 8. — Аўстрыяцкая каталіцкая „Катцпрэс" паведамляе аб „Закліку да хрысьціян у вольных краёх", у якім праваслаўныя епіскапы інфармуюць пра тортураваньне хрысьціян у СССР, у адмысловых псіхіятрычных установах. Адзін з гэтых епіскапаў — Павал, які жыве ў Штутгарце.

Заклік інфармуе пра жахлівыя выпадкі забіваньня сьведамасьці ў „пацыентаў" альбо даправаджаньня да страты змыслу праз ужыцьцё рэчываў фармацэўтычных і тортур псіхічных над асобамі арыштаванымі за рэлігійнае вызнаньне.

Епіскапы маюць пэўныя весткі штонайменш пра 60 ахвяраў гэтых учынкаў і пра спэцыяльныя псіхіятрычныя ўстановы, што займаюцца гэтаю практыкаю: у Казані, Ленінградзе, Чарнігаве, Менску, Днепрапятроўску, Арле і ў іншых мясцох.



## МІНУЛЫ 1971 ГОД У ЖЫЦЬЦІ БАПЦАРКВЫ НА ЧУЖЫНЕ.

Астатнія два гады зазначыліся цяжкімі стратамі для нашае царквы. У 1970-ым годзе, 9-га чырвеня, адыйшоў у вечнасьць Духоўны Дастойнік, Кіраўнік царкоўны ў ЗША, Канадзе й Эўропе, Архіепіскап Васіль. Сёлета, 2-га кастрычніка, упакоіўся Высокадастойны Архіепіскап Сяргей, Галава Царквы й Кіраўнік царкоўны БАПЦарквы ў Аўстраліі.

Абедзьве страты цяжка адбіліся ў душах вернікаў. І асаблівую ўдзячнасьць у маленьнях за душы Іхныя Царква павінна складаць Богу і Высокадастойнаму Архіепіскапу Сяргею за тое, што ён, як добры Айцец, ачоліў асірочаную Царкву, а пастаўляючы ў перадастатнім годзе жыцьця свайго двух новых Епіскапаў, падбаў, каб і не пакінуць Царкву асірочанай.

Стаўшы Слугою Госпада нашага Ісуса Хрыста, Сьвятой Памяці Ўладыка Сяргей узяў за мэту свайго служэньня словы Хрыста: Ня вы мяне выбралі, а я выбраў вас і паставіў, каб ішлі й прыносілі плён і каб плён ваш трываў. (Ян. 15, 16).

Кіруючыся патрэбамі й жаданьнямі сваіх вернікаў, Архіпастыры ўспрынялі запавет Першаерарха з вялікім пачуцьцём. І галоўнаю праблемаю, якія разважаліся на Саборах і нарадах Епіскапаў ды на паседжаньнях парафіяльных радаў, было дбаньне аб павялічэньні ліку сьвятарства БАПЦарквы.

Часткава гэтая праблема была разьвязана праз рукапалажэньне ў сан йерэя брата Яна Пякарскага, у часе пастырскай візытацыі Ўладыкі Андрэя ў Ангельшчыне.

Выезд Уладыкі Мікалая ў Аўстралію на паховіны Сьв. Памяці Архіепіскапа Сяргея прынёс і здабытак для БАПЦарквы праз далучэньне Парафіі Сьв. Апосталаў Пятра й Паўла ў Адэляйдзе да юрысдыкцыі БАПЦарквы.

Да важных здабыткаў належыць і набыцьцё ўласнае Царквы ў Дэтройце ў ЗША, пабудова й высьвячэньне ў ёй Іканастасу, і аднаўленьне Іканастасу ў Царкве Парафіі ў Гайлэнд Парку, ў штаце Нью Джэрзы.

1971 год адзначаўся, як юбілейны — 680-ых ўгодкаў абвешчаньня Навагрудзкай Мітраполіі. На нарадзе Сабору Епіскапаў было пастаноўлена ўрачыста адзначыць гэтае важнае здарэньне ў гісторыі Беларускае Праваслаўнае Царквы сьвяткаваньнямі па ўсіх парафіях БАПЦарквы, што было й выканана пры ўдзеле большага збору вернікаў.

На будучыню мы мусім паставіць перад сабой найважнейшую мэту. Нашая Царква павінна энергічна пашыраць сваю місійную працу сярод нашага грамадзтва па ўсіх кутках вольнага сьвету, дзе толькі ёсьць Беларусы, і моцна змагацца з усякімі праявамі антыхрысьціянскіх уплываў.

# ДА ЮБІЛЕЮ ЯНКІ КУПАЛЫ Й ЯКУБА КОЛАСА

**Ад рэдакцыі.**

Наступны год будзе юбілейным годам нашых найвялікшых паэтаў — Янкі Купалы й Якуба Коласа. Споўніцца 90 год ад іхнага нараджэньня, і 30 год ад трагічнае сьмерці Янкі Купалы. Колас пераржыў Купалу на 14 год. І ў гэтым часе пісаў ўжо пад партыйным бальшавіцкім ціскам.

Купала й Колас будуць слаўныя й памятныя народу тымі творамі, што створаныя вольнаю думкаю. Усё тое, што напісана пад прэсам бальшавізму, ня мае вартасьці, бо то ўжо ня творчасьць, а вымушанае майстраваньне.

Гэтта падаецца характэрнае з творчасьці паэтаў.

**Янка Купала**

## У ЧУЖОЙ СТАРАНЕ

Тут далёка, ў чужой старане,
Ўсякі раз, як зьбліжаецца ноч,
Сэрца больлю сьціскаецца мне,
І спакой недзе коціцца проч.
Думы цяжкія роем снуюць,
Капашацца чмяльмі ў галаве,
Сноў спазнаць залатых не даюць,
Кожна мучыць, к загубе заве.
Усё, што чахне, ня меў долі ў чым,
Чорнай п'яўкай сьлізгоча ў душы...
Аб жыцьці беспраглядным сваім
Разважаю я ў гэтай цішы.
Гэй, ты, гэй, праміну́ўшы мой час!
Гэй, ты, гэй, мой цяперашні дзень!
Што я меў, што я маю ад вас?
Дзе прасьвету хоць цень — бледны цень?
Роднай песьні вясёлы напеў
Ня ўзлунаў над калыскай маей;
Супраціўны скрозь мучыць павеў,
Як за хлебам пашоў да людзей.
Гоняць, гналі, дзе гнаці маглі,
Як шалёных ганяюць сабак;
На сваёй, ах, на роднай зямлі
Сустракаўся я з сонейкам так.
На зямлі, што дзед, прадзед сьлязьмі
І гарачай крывёй паліваў,
Ўнук — ужо між чужымі людзьмі —
Тэй зямлі трох аршын не дастаў.
Што-ж? — разгулівай, сыты чужак,
Між забраных крыжоў, курганоў,
Брат скаваны ня згіне і так:
Ён другіх пашукае братоў.
Гэй, ты, краю халодны, чужы,
Прытулі бесхацінца к сабе:
Ён цябе, як і роднай мяжы,
Не забудзе ў прадсьмертнай кляцьбе.



Ты, дзяўчына чужая, закрый
Па скананьні мне зрэнкі мае,
Ты, чужы друг, мне яміну рый,
Віхр чужы хай памінкі сьпяе.
Крыж пастаўце, як ставіце ўсім,
Мае путы павесьце на ім;
Мае сьлёзы з магілы расой
Выйдуць путы зьядаці іржой.

---

**Якуб Колас**

## ЗІМА Ў ПАРЭЧЧЫ.

(З паэмы „Новая Зямля").

О, добры час дзянькоў прыгожых!
Ты зьнік у хвалях часаў Божых,
І толькі ў думках і ўспамінах
Жывеш — гарыш у днёх дзяцінных.
Дзяцінны час... Я памятаю
Зімы прыход у нашым краі.
Стаіць над лесам шум маркотны;
Па небе хмары, як палотны,
Паўночны вецер расьцілае,
І бель над далямі зьвісае.
І ціха стане на падворку,
І лес жалобную гаворку,
Свой гоман восені канчае
І моўчкі зіму сустракае.
А сетка белая гусьцее,
І бліжай-бліжай сьнегам сее.
І вось над хатай, над гуменцам
Сьняжынкі жвавыя гуляюць,
Садок і дворых засьцілаюць
Бялюткім, чыстым палаценцам.
І тут у хаце ня ўтрываеш:
Кажух на плечы накідаеш,
Бяжыш на двор, як той шалёны,
Крычыш, гукаеш здавалёны,
Зямлі ня чуеш пад сабою
І ловіш белы пух рукою.
Ўгару зірнеш, — як рой пчаліны,
Снуюцца ціхія пушыны,
Ўгары зьнячэўку штурханецца,
Глядзіш — і ў пары пабяруцца.
— Ого-го, брат! — дзядзька кажа: —
Цяпер зіма напэўна ляжа!
За санкі, Костусь, трэба брацца,
Эх, будзеш мецць дзе разгуляцца! —
І Костусь рады і давольны:
Цяпер гулянак сьвет раздольны;
Адкрыты новыя пуціны
І круг забаў яго дзяцінны.

І ён ад радасьці трасецца
Ды ў мяккім сьнезе скачанецца.
А сьнег станоўка і заложна
Так і шуплюе. Лес набожна
Стаіць, маўчыць і ўсё сьвятлее,
Як-бы, здаецца, весялее.
Назаўтра ўстанеш — сьвет зьмянёны,
У новых хутрах вербы, клёны,
І ўсюды чыста, бель такая,
Што проста вочы адбірае.
Ў парканах шулы, як салдаты,
Стаяць у струнку, зухаваты,
Башлык высокі, шапкі новы,
„Гура!” гукнуць табе гатовы.
Ідзе з лапатай дзядзька з хаты
І адграбае сьнег заўзята,
Ў гумно і хлеў праводзіць сьцежкі,
Ня хоча мець удзень замешкі,
Бо ўдзень на рэчку і на тоні
Схадзіць рыхтуецца Антоні.
Мы знаем — ён рыбак з уроды,
І ўсякіх рыб ён знае ходы,
Калі якая нерастуе,
Што ёй пад густ, чаго бракуе;
І нораў кажнай рыбы знае,
Аб іх трактат ён прачытае,
Ды так, што люба і паслухаць,
Дзівіцца будзеш і лоб чухаць.
І гэта ўсё ня з кніг набрана,
Ня з слоў вучонага паўпана,
Якіх цяпер усюды досыць:
Ўсё гэта ўласны розум зносіць,
Свая мазолілась галоўка,
А ня чыя там калатоўка . . .

## „ЗАПРЭТ” НА КНІГУ АРХІЕПІСКАПА АПАНАСА

Як падае расейская газэта „Новое Русское Слово” (9 лістап. 1971 г.) сынод Рускай Зарубежнай Царквы налажыў забарону на пашырэньне кнігі „Беларусь” Архіепіскапа Апанаса, які належыць да Зарубежнай Царквы.

Кніга Арх. Апанаса мае дакладны назоў: „Беларусь в Исторической Государственной и Церковной Жизни”. Выдана ў Буэнос Айрэсе ў Аргентыне ў 1966 годзе. У гэтай кнізе Архіепіскап Апанас праўдзіва насьвятляе гісторыю разьвіцьця й жыцьця Беларускае Праваслаўнае Царквы.

Па-за Расейцамі гісторыя нашае Царквы шмат каму ведамая. Расейцам, якія да гэтага часу гісторыі нашае Царквы ня зналі й знаць не хацелі, альбо сьведама фальшавалі, кніга Архіепіскапа Апанаса зваліласяя, як раптоўны сьнег на галаву. Таму сынод Зарубежнай Расейскай Царквы налажыў забарону на яе пашырэньне, думаючы гэтым прыхаваць праўдзівую гісторыю Беларускае Царквы. Учынак, бязумоўна, наіўны, але кажучы парасейску, і „нечистоплотный”.



## З ДЗЕЯЎ УКРАІНСКАЕ ЦАРКВЫ

Сабор Епіскапаў Украінскае Праваслаўнае Царквы ў ЗША і Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы ў Эўропе й Аўстраліі пастанавіў аб'яднаць гэтыя Цэркв й стварыць адзіны сталы Сабор Епіскапаў і выбраць на Старшыню гэтага Сабору Мітрапаліта Мсьціслава, галаву Праваслаўнае Царквы ў ЗША.

Украінская Праваслаўная Царква ў Канадзе, якую ўзглаўляе Мітрапаліт Іларыён, але з прычыны ягонага нядугу кіраваньне гэтаю Царквою ўзложана на Архіепіскапа Міхаіла, удзелу ў Саборы ня прымала. Але Архіепіскап Міхаіл прыслаў прывітаньне Сабору, які нядаўна адбыўся ў Філядэльфіі з удзелам духавенства й вернікаў і які паставіў Архіепіскапа Мсьціслава на Мітрапаліта. Таму украінская прэса выказвае надзею на ўстанаўленьне царкоўнай лучнасьці між усімі праваслаўнымі Украінцамі ў Паўночнай Амэрыцы.

## УКРАІНСКАЯ ГРЭКА-КАТАЛІЦКАЯ ЦАРКВА

Украінская Каталіцкая Царква вядзе свой пачатак ад Берасьцейскай вуніі 1596 году, калі Кіеўскі Мітрапаліт Рагоза з 5-ма сваімі Епіскапамі й з трыма архімандрытамі пацьвердзілі акт зьяднаньня Украінскае Царквы з Царквою Каталіцкаю.

Як вядома, пасьля падзелу Рэчы Паспалітае, на Украінскай тэрыторыі, якая адыйшла да Расеі, вунійная Царква была зруйнаваная, а вернікі былі сілком далучаны да Расейскай Праваслаўнай Царквы. Аднак астоя гэтае Царквы засталася на тэй частцы украінскай тэрыторыі — у Галіччыне — якая адыйшла да Аўстра-Вугорскай імпэрыі, і дзе, на падставе Ужгародзкай Вуніі ў 1646 годзе, адбылося далучэньне да Грэка-Каталіцкай Царквы.

Па Другой Сьвятовай вайне й гэтая частка украінскае тэрыторыі была прылучаная да СССР, і на гэтай частцы Грэка-Каталіцкая Царква была зруйнаваная.

Але на выгнаньні апынулася досыць вялікая колькасьць украінцаў вуніятаў з вялікшай часткаю духавенства.

У першых днёх лістапада сёлета ў Рыме ў Царкве сьв. мучанікаў Сергія й Вакха адбыўся Сынод украінскіх каталіцкіх епіскапаў. Прысутных было 16 епіскапаў, і чатыры ўпаважненьні ад няпрысутных. Было пастаноўлена выбраць сталы незалежны Сынод з чатырох епіскапаў пад главенствам Архіепіскапа Іосіфа Сьліпога й дамагацца поўнае незалежнасьці Царквы начале з сваім Патрыярхам.

Гэтая пастанова прынятая супраць волі Папы Рымскага, які на гэта ня даў свае згоды й пасьвячаньня.

# ХРОНІКА

## УРАЧЫСТАЕ СЬВЯТКАВАНЬНЕ 680-х УГОДКАЎ НАВАГРАДЗКАЕ МІТРАПОЛІІ

У Нью Ёрку 24-га кастрычніка Парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью Ёрку й Жыровіцкае Божае Маці ў Гайлэнд Парку супольна правялі юбілейнае сьвята заснаваньня Праваслаўнае Наваградзкае Мітраполіі ў 1291 годзе. Ад гэтае даты вядзе свой пачатак Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква.

Урачыстую сьв. Літургію ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адслужыў Архіепіскап Андрэй у суслужэньні айцоў Васіля Кендыша й Карпа Стара. Пасьля Літургіі была адслужана Паніхіда па сьв. памяці Архіепіскапу Сяргею.

Па Божай Службе, на агульнай бяседзе ў залі пад царквой Уладыка Андрэй прачытаў даклад пра першую Незалежную Праваслаўную Мітраполію ў Наваградку — былой сталіцы Вялікага Княства Літоўскага (зьмешчаны ў гэтым нумары „Г. Ц.").

У часе абеду выступалі прамоўцы з прывітаньнямі, адзначаючы важнасьць для БАПЦарквы гэтага Акту й падаючы некаторыя важныя для нашае Царквы гістарычныя факты.

**Парафія ў Кліўленьдзе**

У гэтым годзе Парафія ў Кліўленьдзе асаблівы націск клала на ладжаньне рэлігійных абыходаў, аб якіх тут і дазволім сабе падзяліцца з чытачамі „Голасу Царквы".

4-га красавіка захадамі сяброў Парафіяльнае Рады быў зарганізаваны „Вялікапосны Абед", на якім Уладыка Андрэй прачытаў даклад аб муках Хрыста, сястра Іра Каляда-Смірнова чамастацку прадэклямавала паэму „Сьмерць Хрыста". 18-га красавіка — на Вялікдзень, — адразу пасьля Ўсяночнае й Сьв. Літургіі, вернікі зыйшліся ў Царкоўнай залі на Вялікоднае разгаўленьне.

У дзень Маці, 5-га травеня, пасьля Багаслужбы ў Царкве, вернікі сабраліся ў Царкоўнай Залі, дзе Бацькі прыгатавалі для Матак абед, у часе якога быў прачытаны прынагодны рэфарат і даручаны кветкі для найстарэйшых Маці Парафіі.

Урачыстае сьвяткаваньне Парафіяльнага Сьвята сёлета адбылося дня 23-га травеня. Архірэйскую Багаслужбу ўзначальваў Уладыка Андрэй у асысьце прат. а. Лявонція, пратадыякана Савіцкага й дыякана Страпко. Малебен да Жыровіцкае Божае Маці, Крыжны Ход навакола Царквы, чытаньне належных Эвангельляў, мэлёдыйны сьпеў хору пад кіравецтвам бр. Кіслага — поўнілі душы вернікаў малітоўным пачуцьцём. Уладыка Андрэй прачытаў на банкеце даклад у чэсьць Парафіяльнага сьвята. Горача вітаў прысутных з нагоды Храмавога сьвята ад імя Украінцаў Прат. а. Лявонці, а ад казакоў Мозгавой.

20-га чырвеня, у гадавіну сьмерці сьв. пам. Уладыкі Васіля, была адпраўлена Паніхіда, а парафіяне адзначалі Ягоную памяць Жалобнаю Вячэраю.

18-га ліпеня Уладыка Андрэй з нагоды свайго 70-годзьдзя ад дня нараджэньня справіў Банкет. На банкеце было прачытана шмат прысланых прывітаньняў, а прысутныя віталі вусна.

25-га ліпеня чарговая Багаслужба адбылася на вольным паветры на селішчы „Полацак". Спрыяльная пагода спрычынілася да вялікага збору вернікаў. Пасьля Багаслужбы адбыўся царкоўны пікнік.

Увялося ў звычай у Парафіі штогоду адзначаць „Дзень Удзячнасьці". Сёлета гэты дзень вызначаны на 21-га лістапада, адначасна з юбілейным сьвятам — 680-ых угодкаў заснаваньня Навагрудзкай Мітраполіі.

Пасьля Сьв. Літургіі ў Царкве быў адслужаны Малебен Удзячнасьці. У царкоўнай залі быў прыгатаваны шчодры абед з індыком. У часе абеду Уладыка Андрэй прачытаў даклад аб „Значэньні Навагрудзкай Мітраполіі ў гісторыі БАПЦарквы. У дакладзе прыпомнены мінулыя падзеі, паўтарыліся добра ведамыя факты, прыпаміналіся імёны Навагрудзкіх Мітрапалітаў і іншых гістарычных дзеячоў таго часу.



Да нутраное дзейнасьці Парафіі трэба залічыць уладжаньне ў Парафіяльным Доме канцылярыі, брак якое даўно адчуваўся.

Усе парафіяне з вялікім жалем успрынялі сьмерць Галавы БАПЦарквы Архіепіскапа Сяргея, у шчырым маленьні за супакой Ягонае душы.

Апрача нутраное дзейнасьці, як Кіраўнік Парафіі, гэтак і некаторыя парафіяне ўспамагалі Парафіі БАПЦарквы ў Дэтройце, як Божымі Службамі, так і матарыяльнай дапамогай.

## З АЎСТРАЛІІ

**Парафія у Мэльбурне**

Прыкладам папярэдных гадоў і ў гэтым годзе пасьля Сьв. Літургіі ў Нядзелю Апостала Тамаша а. Аляксандар з хорам і ладнаю колькасьцю вернікаў Парафіі Сьв. Антона, Яна й Еўстафа ў Мэльбурне наведалі магільнік, каб над магіламі памаліцца за супакой душ адыйшоўшых на вечны супачынак. Адначасна Кіраўнік Парафіі Прат. Аляксандар пасьвяціў памятнік, пастаўлены на магільніку на дзялянцы, што належыць да Беларусаў. У часе адправы паніхідаў да Беларусаў далучыліся іншыя нацыянальнасьці, якія ў гутарцы вельмі цікавіліся парадкам на беларускім магільніку.

29-га жніўня ў Мэльбурне адбыліся хрысьціны дачкі Яна й Галіны Дохэрты, якой далі імя Аляксандра, а 25-га верасьня ахрышчаны быў сын Яна й Шэрлы Карп. Сына назвалі Дарафей. Няхай Госпад Бог наш абдарыць новаахрышчаных добрым здароўем, каб расьлі на пацеху бацьком, а Беларускаму грамадзтву на карысьць.

Дня 2-га кастрычніка ў Мэльбурне адбылася рэлігійная Канфэрэнцыя, якую склікала Сусьветная арганізацыя Цэркваў. У канфэрэнцыі брала ўдзел духавенства й прадстаўнікі ад розных рэлігійных і сьвецкіх арганізацыяў: сацыяльнага забясьпечаньня, аховы здароўя й культуры й інш. Беларусаў рэпрэзэнтаваў Прат. а. Аляксандар.

24-га кастрычніка Прат. а. Аляксандар, Клер і Парафіяльная Рада ў Мэльбурне радасна віталі Уладыку Мікалая. У часе сьв. Літургіі, якую адправіў Уладыка ў асысьце а. Аляксандра ў Царкве прысутнічала бальшая колькасьць вернікаў. Архірэйскую Багаслужбу вернікі ўспрынялі з радасным рэлігійным узбуджэньнем.

24-га кастрычніка Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква ў Мэльбурне адзначала 50-ці годзьдзе абвешчаньня Аўтакефаліі. На сьвяткаваньне была запрошана й Парафія БАПЦарквы Сьв. Антона, Яна й Еўстафа, якую рэпрэзэнтаваў Кіраўнік Парафіі Пратаерэй а. Аляксандар Кулакоўскі.

**Юбілейнае сьвяткаваньне**

7-га лістапада Парафія БАПЦарквы ў Мэльбурне ўрачыста адзначыла 680-я ўгодкі заснаваньня Навагрудзкай Мітраполіі. На сьвяткаваньне прыехаў Уладыка Мікалай, які ў суслужэньні Прат. а. Аляксандра адправіў Архірэйскую Сьв. Літургію. Сьпяваў узмоцнены новымі харыстамі хор пад кіравецтвам рэгента бр. Мікалая.

Прысутны на абедзе Уладыка Мікалай выказаў асаблівае значэньне йснаваньня парафіяў БАПЦарквы ў сучасным Вольным Сьвеце, бо без рэлігійнага задзіночаньня ўсе мы загубіліся-б сярод чужынцаў; а таму радзіў паклапаціцца набыць уласны будынак, дзе-б магла зьмяшчацца й Царква.

### З Ангельшчыны

Візытацыя Архіепіскапа Андрэя беларускіх асяродкаў і рукапалажэньне новага сьвятара значна ажывіла дзейнасьць БАПЦарквы ў Ангельшчыне.

Пры ранейшых умовах адзін сьвятар змушаны быў абслугоўваць аж 5 асяродкаў, а таму Багаслужбы адбываліся ў кажным асяродку праз 4-5 тыдняў.

Цяпер, пры наяўнасьці ўжо двух сьвятароў Багаслужбы могуць адбывацца ў кажную другую, або трэйцюю нядзелю.

17-га кастрычніка адбылася супольная Багаслужба ў Манчэстары, дзе пасьля Сьв. Літургіі абодва сьвятары адправілі Паніхіду за супакой душы Сьв. Пам. Ўладыкі Сяргея.

24-га кастрычніка супольная Багаслужба й Паніхіда былі адпраўлены ў Нотынгаме. А праз увесь час на працягу 40 дзён ад сьмерці Сьв. Пам. Ўладыкі Сяргея, адпраўляліся Паніхіды ўва ўсіх іншых беларускіх асяродках.

---

### ДЗЕЛЯ ЧАГО ІСНУЕ МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ Ў БССР
**„Выхоўваць атэістаў"**

Пад такім загалоўкам у „ЛіМ", (Літаратура й мастацтва) № 47, 19. XI. 71, зьмешчана міністэрская рэляцыя, якую тут частквa зьмяшчаем.

„Калегія Міністэрства культуры БССР прыняла пастанову аб мерапрыемствах, накіраваных на атэістычнае выхаваньне насельніцтва. Абласным і мінскаму гарадзкому ўпраўленьням, раённым і гарадзкім аддзелам культуры прапанавана разгледзець пытаньне аб стане атэістычнага выхаваньня насельніцтва й распрацаваць канкрэтныя пляны ўмацаваньня антырэлігійнае работы ўстановаў культуры, зьвярнуць асаблівую ўвагу на атэістычнае выхаваньне рабочай, сельскай і вучнёўскай моладзі, на індывідуяльную работу з верачымі".

Далей пералічаецца, што будзе праводзіцца ў гэтых „культурных" установах: гутаркі, лекцыі, дыспуты, вечары пытаньняў і адказаў, канферэнцыі, антырэлігійная мастацкая самадзейнасьць, кіно, выяўленчае мастацтва, дыяфільмы; абнаўленьне агітацыйнай супрацьрэлігійнай тэматыкі, кніжных паліцаў, вітрынаў, куткоў атэістых; правядзеньне антырэлігійных перасовачных выставак і стварэньне стала дзеючых такіх выставак; узмацненьне атэістычнай прапаганды ў музэях, на экскурсіях з атэістычнымі мэтамі.

Далей пералічаюцца абрады бальшавіцкае Ленінскае веры:

„Клубы стануць месцам правядзеньня сучасных абрадаў — рэгістрацыі шлюбаў, нараджэньняў, уручэньня пашпарту, прысьвячэньня моладзі ў рабочыя або хлебаробы, провадаў у армію, на пэнсію. Палепшыцца арганізацыя масавых народных сьвятаў зімы, вясны, ураджаю, дня работніка сельскае гаспадаркі ды інш.".

І яшчэ: „Намечана ажыцьцявіць многія іншыя мерапрыемствы".

Значыць „мерапрыемстваў" гэтых усьцяж нехапае. А якія яшчэ могуць быць? Хіба толькі, у стылі гэтае дзейнасьці Міністэрства „культуры" БССР, бракуе аднае яшчэ дэталі завяршальнага характару: гэта — увядзеньня рытуальных Ленінска-бальшавіцкіх танцаў з падгукамі.







## АПОВЕСЬЦЬ З ЧАСОЎ ГРАМАДЗЯНСКАЕ ВАЙНЫ Ў АМЭРЫЦЫ

Было гэта ў часе грамадзянскай вайны ў Амэрыцы ў 1861 годзе. У войску Паўночных Штатаў Амэрыкі адбывалі вайсковую службу два запрыязьненыя сябры. У часе ваенных дзеяньняў на паўднёвым фроньце варожая куля сьмяротна раніла аднаго зь іх. Другі кінуўся яго ратаваць, бо сябра ягоны сьцякаў крывёю, траціў апошнія сілы й быў пры сьмерці. Палажыўшы яго на зямлі, сябра даў яму напіцца вады, абмыў акрываўлены твар, пачаў мітусіцца, каб яшчэ нечым дапамагчы, і прыглядаючыся ў твар свайго прыяцеля, спытаў яго: „Дарагі сябра, што яшчэ я маю для цябе зрабіць, каб палегчыць тваё цярпеньне, боль душы й цела?"

— Так! Калі ў цябе ёсьць лісьцік паперы, прашу запішы, што я табе скажу. Я маю багатага бацьку ў далёкім ад нас штаце, і ты яму занясі гэтае пісьмо ад мяне, як апошняе маё разьвітаньне зь ім. У мяне яшчэ хопіць сілы, і я падпішу яго. І пачаў з вялікаю натугаю выказваць словы, якія выплывалі зь ягонага сэрца й памяці да бацькі ды з удзячнасьці да свайго прыяцеля, які ў апошнюю хвіліну быў яму найбліжэйшым у маладым жыцьці, якое ён траціў для блізкіх, для Амэрыкі, каб яна была моцнай. „Дарагі Тата! Я ўміраю на полі змаганьня, і адзін з маіх сяброў памагае мне ў цяжкім маім стане. Можа ён калі будзе мець якую патрэбу ў жыцьці, будзь добрым, памажы яму. Твой сын Чарлі". І ўжо дрыготнаю рукою падпісаў гэты ліст паперы й аддаў сябру разам з усімі сваімі дакумантамі . . . і сканаў.

Прайшло некалькі гадоў пасьля вайны. Былы жаўнер вярнуўся дамоў жывым, апынуўся ў цяжкім матар'яльным стане і, разважаючы над далейшым сваім лёсам, успомніў той час, як каля яго ўміралі адважныя ваякі, а найперш — свайго сябра Чарля, які ў астатняй часіне жыцьця апавядаў яму, што быў адзіным сынам у бацькі, жыў у дастатках, бо ягоны бацька быў ня толькі багатым, але судзьдзёю, радным і прадстаўніком вялікага гораду Бостону. Паўстала думка адшукаць яго й паказаць той ліст, што падпісаў Чарлі — ягоны сын. І вось ён у Бастоне. Стукаецца ў дзьверы аднаго раскошнага палацу. Выходзіць служанка, каб спытацца, хто й чаго хоча. Даведаўшыся ў чым справа, яна паведаміла свайго гаспадара, які зараз-жа вышаў, каб самому пабачыць прыйшоўшага чалавека. Былы ваяка падаў яму ліст ягонага сына й моўчкі чакаў адказаў. І сталася нечаканае. Багаты й знаны судзьдзя запрасіў яго ў свой дом і пачаў распытваць аб сваім загінутым сыне-героі. Даведаўшыся, што і як было, судзьдзя абняўшы жаўнера, сябру апошніх хвілінаў жыцьця ягонага сына, сказаў: „Скажы мне, ў чым

Цана 1 даляр

*ВЫСОКАДАСТОЙНЫХ УЛАДЫКАЎ НАШЫХ*

АНДРЭЯ й МІКАЛАЯ

*усечаснае Сьвятарства, Дастойных Рэгентаў і Харыстых,*
*Хвальныя Парафіяльныя Рады, Брацтвы й Сястрыцтвы,*
*навуковыя й грамадзкія ўстановы,*
*усіх Багалюбных Вернікаў БАПЦарквы*
*і ўвесь наш Беларускі Народ на Бацькаўшчыне й на выгнаньні*
*ВІТАЕМ*
*З НАРАДЖЭНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ*
*і з Новым 1972 годам!*

*Няхай Госпад Бог узнагародзіць усіх добрым здароўем і духоваю вытрываласьцю ў змаганьні за пашырэньне Праўды Хрыстовае й дазволіць дачакацца Яе Сьветлае перамогі для Славы Божай і шчасьця Народу Нашага!*

Епархіяльная Ўправа

**ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ**

**27, 28 і 29 травеня 1972 году**

адбудзецца ў Катэдральным Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага на 401 Атлянтык Эвэ. у Брукліне, Нью Ёрку

**2-гі САБОР**

**Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне.**

У Саборы прымуць удзел Епіскапы, духавенства й выбраныя прадстаўнікі ад усіх парафіяў БАПЦарквы.

**Перадсаборная Камісія БАПЦарквы**

---

маеш патрэбу, а я ўсё зраблю, бо я маю магчымасьці памагчы табе. У імя майго сына, ты можаш мець усё ад мяне, бо мой сын быў адзіным у мяне й усё маё багацьце было-б ягоным, а ягоная апошняя воля была памагчы табе".

Помач аказалася такою шчодраю, што гэты бедны сябра Чарля стаўся багатым грамадзянінам ЗША.

Гэта ня выдуманае апавяданьне, а запраўднае здарэньне. Людзі з шчырым хрысьціянскім пачуцьцём умеюць тварыць прыгожыя прыклады да насьледваньня іншым.

І гэтае здарэньне нагадвае нам прыгожыя прыпавесьці Хрыстовыя й навуку Ягоную аб любові да бліжніх і добрых выніках гэтае любові.

**Падаў А. Асіповіч**